



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (1064) БЕЛАСТОК, 18 ЛІПЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі**

Любіць сваю радзіму — значыць палымяна жадаць бачыць у ёй ажыццяўленне ідэалу чалавецтва, і па меры сіл, дапамагаць гэтаму. *(В. Бялінскі)*

*

Я заўсёды пагарджаў людзьмі, якія занадта клапоцяцца аб тым, каб быць сытымі. Не ў гэтым справа! Чалавек — вышэй сытасці! *(М. Горкі)*



## VIII з'езд БГКТ

# ВАЖНАЕ ЗВЯНО

*(ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ПАРП ТАВ. ЧЭСЛАВА ДАМІНОЎСКАГА)*

Таварышы дэлегаты!

Хачу перадаць вам, удзельнікам VIII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у якім налічваецца 6000 членаў, сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні плённых вынікаў нарады.

Польская аб'яднаная рабочая партыя і народная ўлада нашай краіны, поўнасцю здзяйсняючы прынцып інтэрнацыяналізму, стварылі цэлую сістэму прыхільных умоў усебаковага развіцця для ўсіх грамадзян, нягледзячы на іх нацыянальнае паходжанне. У Народнай Польшчы ўсе яе грамадзяне, нягледзячы на іх нацыянальнае паходжанне, мелі поўную магчымасць атрымаць прафесію, адукацыю і месца ў грамадстве. Гэта самы красамоўны факт поўнага раўнапраўя ўсіх грамадзян.

У сукупнасці нашай нацыянальнай палітыкі грамадска-культурныя таварыствы з'яўляюцца важным звяном. Пры палітычнай і матэрыяльнай дапамозе дзяржавы садзейнічаюць яны ўмацаванню адзінства нашага грамадства, выкананню пастаўленых перад усім народам заданняў.

Таварыствы маюць магчымасць культываваць мову, развіваць культуру і прагрэсіўныя нацыянальныя традыцыі. Яны дапамагаюць у працы над ліквідацыяй выступаючых яшчэ праяўленняў нацыяналізму і сепаратызму.

Ваш VIII з'езд, як сказана ў справаздачы, засядае ў часе вельмі важных падзей у жыцці ўсяго грамадства, у часе здзяйснення праграмы, намечанай VII з'ездам пар-

(Працяг на стар. 3)

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76**



*Дуэт з Беластока — Люба Гаўрылюк і Яўгенія Астапчук. На цэнтральным аглядзе заняў ён II месца (катэгорыя сучаснай песні). Фота Я. Цялушэцкага.*

# СВАБОДА ПРЫЙШЛА Ў ЛІПЕНІ

17 ліпеня 1944 г. Савецкая Армія вызваліла ад нямецкіх захопнікаў Белавежу. Ад таго дня прайшло 32 гады. З цягам часу зацерліся ў людской памяці падрабязнасці здарэнняў. На падставе ўспамінаў Мікалая Бушко, Парфена Валкавыцкага, Уладзіміра Гвая, Яна Гвая, Міхала Байко і Пелагеі Янюк папрабую, аднак, іх прыпомніць.

Савецкія войскі наблізіліся да мяжы Белавежскай пушчы непрыкметна. Немцы спадзяваліся іх, але не паспелі падрыхтаваць абарону. Нават не выкарысталі лінію акопаў, якая цягнулася на полі ўздоўж Трапінкі, ля могільніка, і ўрэзвалася ў Стачок. Акопы гэтыя былі зроблены жыхарамі Белавежы, зразумела, па ініцыятыве і пры наглядзе самых немцаў. 16 ліпеня пад вечар немцы выслалі ў напрамку Броўска, г.зн. да паўночна-ўсходняй часткі пушчы два „тыгры". Праўдападобна, у разведку. Але яны не ўехалі ў лес. Сталі там ужо атрады 65 арміі генерала Батава, чакаючы ад сваіх разведчыкаў паведамленняў аб сітуацыі ў Белавежы. Аднаго „тыгра" трапілі на месцы (другому ўдалося ўцячы). М. Бушко гаворыць, што потым хадзіў глядзець гэты танк. У яго была сарвана вежа, а ўся рэдзіне асталася толькі падкоўка з цвікамі і два скручаныя медныя дроты.

Жыхары Белавежы ўжо здагадваліся, што найбліжэйшыя гадзіны прынясуць вызваленне. Але якой цаной прыйдзецца яго купіць, нікому не было вядома. Немцы спешна адпраўлялі рухомыя саставы і самі ўцякалі. У паветры вісеў жах. Ад прыцемку кожны сядзеў у хаце ці ў падрыхтаваным загадзя схovішчы ў гародзе або ў садзе. Чутны былі нарастаючыя стрэлы. Рускія ўвайшлі спярша на Стачок. Наступіла гэта дзесьці на досвітку. „Калі я раніцай устаў, — успамінае Я. Бушко, — у мяне на панадворку сядзеў ужо рускі лейтэнант-радыётэлеграфіст. Радасць мая крыху аслабла, як убачыў я, што гараць у парку палац. Першыя мае думкі — гэта, ці не гараць музей, у якім я працаваў. Не чакаючы нічога, я хутка пабег праверыць, каб у выпадку патрэбы ратаваць. На шчасце, музей стаяў цэлы, нават ключыкі ляжалі на канторы. Крыху пазней паявіліся ў парку савецкія салдаты. Пачаткова адносіліся да мяне недаверліва, але калі праверылі мае дакументы, маёр-лейтэнант Грабянцоў даў мне спраўку для аховы музея перад рабункам. Разам з назначанымі салдатамі заданне гэта я выканаў".

Палац тым часам, падпалены і знішчаны атрадам венгерскіх здраднікаў, якія ішлі з нямецкім войскам (белавежцы называлі іх мад'ярамі), пачалі рабаваць замест ратаваць. Немцы займалі яшчэ Заставу і адтуль засыпалі Стачок, дзе зрабілі некалькі месц для куляметаў, між іншым, ля басейна, у гміне і „намацвалі" пункты супраціўлення вораг. Частка атрадаў у гэты час пайшла лесам — „папяротным трыбам", праз раку, на спаленых у 1941 г. Пагарэльцы, каб акружным манеўрам загарадзіць камяніецкую дарогу, якой на Брэст уцякалі з Белавежы немцы.

Паступова на Заставе рабілася малое пекла. Немцы адышлі пад сцяну лесу. Стаячая ля дома пуцявога абходчыка нямецкая гармата трапіла ў нейкім моманце ў вежу палаца. Рускія хацелі знішчыць гармату і пачалі страляць у гэтым напрамку. Такім чынам Застава апынулася на лініі агню.

„У поўным моманце, — успамінае П. Валкавыцкі, — я ўбачыў, што гараць паражаны снарадам Гаўрылчын хлеў. Хутчэй пабег ратаваць жывёлу, але заўважылі мяне мад'яры і пачалі страляць. Вярнуўся я дамоў, узяў на рукі сына Валодзю і пачаў прабірацца праз раку да лесу. Сабралася тады нас каля 40 чалавек. У лесе мы трапілі на немцаў, але нияк асталіся шчасліва ўсе пры жыцці".

„Я таксама ўцякаў, — гаворыць У. Гвай. — Вылез з схovішча ў гародзе, выпусціў з хлява карову і авечак, узяў дочку Галю і папоўз у напрамку сажалкі. Тут сустрэў рускіх".

„Мад'яры ў гэты час, — дадае Я. Гвай, — прыйшлі паліць Сяло (частка Заставы — рэд.). Ішлі вуліцай і выганялі асташыхся жыхароў з дамоў. Людзі плакалі, прабавалі падкупіць самагонкай, маслам, але дзе там... Праз некалькі дзесяткаў мінут над Заставай шалеў пажар".

„Калі я вярнуўся назад, — гаворыць

(Працяг на стар. 4)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"**





*Мак.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

28 чэрвеня г.г. адбылося першае пасля VIII з'езду пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На ім члены прэзідыума выслухалі і абмеркавалі справаздачу аб конкурсах ГП БГКТ, якія адбыліся ў гэтым годзе, разглядзелі план працы на II паўгоддзе, стварылі гурток лектараў і абмеркавалі персанальны склад культурнай, асветнай і этнаграфічна-фальклорнай камісій, якія створыць ГП БГКТ на сваім першым рабочым пасяджэнні.

Прэзідыум ГП БГКТ высока ацаніў арганізацыйны і ідэйны бакі VIII з'езду. Высокую ацэнку атрымалі таксама конкурсы. Тут варта адзначыць, што прэзідыум плануе ўвесці і новыя конкурсы: мастацкага чытання і малюнкаў (абодва для школьнай моладзі).

(рл)




## ПРАЕКТ „ГОРАДА" Ў КОСМАСЕ

Амерыканскія вучоныя лічаць, што праз некалькі дзесяцігоддзяў „гарады" ў космасе могуць стаць рэальнай рэчаіснасцю.

У даследчым цэнтры Эймс у Маунцін-В'ю (штат Каліфорнія) ў атэлі Нацыянальнага ўпраўлення па аэранаўтыцы і даследаванню касмічнай прасторы ЗША (НАСА) адбыўся семінар, прысвечаны гэтай праблеме. На праведзенай у сувязі з гэтым прэс-канферэнцыі спецыялісты расказалі аб праекце „касмічнай калоніі" з дзесяццю тысячамі жыхароў.

З Зямлі запускаецца параўнальна невялікая арбітальная станцыя. Яе аддаленне — прыкладна 330 тысяч кіламетраў. Такая вышыня выбрана ў сувязі з тым, што сіла прыцягнення Зямлі і Месяца ў гэтым поясе роўная. Жыхары станцыі пры дапамозе дастаўленага з Зямлі абсталявання пачнуць будаваць асноўны „дом", які мае форму кола дыяметрам звыш паўтара кіламетра. Матэрыялы плануецца здабываць на Месяцы і дастаўляць у неапрацаваным выглядзе на „будаўнічую пляцоўку". Тут з руды будзе выпраўляцца алюміній, прычым выплаўка яго ва ўмовах бязважкасці дасць магчымасць атрымаць метал значна большай чысціні і трываласці, чым на Зямлі.

У гатовым выглядзе „дом-горад" будзе даволі камфартабельным. Акрамя жылых памяшканняў, тут будуць пляцоўкі для адпачынку і прагулак і нават палі для раслін. Станцыя будзе круціцца са скорасцю аднаго абароту ў мінуту, каб стварыць прывычную для чалавека сілу прыцягнення. Паветра і ваду плануецца пастаянна рэгенерыраваць і ачышчаць.

Галоўным заняткам жыхароў касмічнага горада, на думку вучоных, павінна стаць забеспячэнне Зямлі таннай энергіяй. Яны будуць будаваць і запускаць на калязямныя арбіты спадарожнікі-электрастанцыі.

## ЯЛАВІЧЫНА З РЫБЫ

Японскія вучоныя распрацавалі тэхналогію вытворчасці штучнай ялавічыны. Зыходным прадуктам для яе прыгатавання стала танная марская рыба. Стваральнікі „марской ялавічыны" сцвярджаюць, што яна не адрозніваецца ад сапраўднай ні па пажыўных уласцівасцях, ні па смаку.

Раней у некаторых заходніх краінах быў створаны парашкападобны канцэнтрат рыбнага бялку, але ён зусім нясмачны. У японскай жа „рыбнай ялавічыне" дзякуючы старанна падабраным спецыям і смакавым дабаўкам гэты істотны недахоп удалося ліквідаваць.

Самым цяжкім аказалася надаць штучнай ялавічыне пруткасць сапраўднай. Не адну сотню яе порцый перажавалі супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі японскага ўпраўлення па рыбалоўству, пакуль не дабіліся неабходнага падабенства створанага імі прадукта з сапраўдным мясам.

Раней японцы амаль не ўжывалі мяса, але ў апошнія 10—15 гадоў ялавічына і бараніна сталі паступова ўваходзіць у іх рацыён. Аднак з-за галавакружнага росту цэн на імпартнае мяса ў апошнія два-тры гады многія японцы, якія палюбілі біфштэксы, катлеты і рагу, вымушаны адмаўляцца ад сваіх новых звычак і пераходзіць на танную рыбу.



Зінаіда Бычкоўская (справа) сярод сваіх выхаванкаў.

# ДЭПУТАТ ПАРЛАМЕНТА

**(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА)**

На беларускай зямлі ў пяцідзесятыя гады нарадзілася новае тэкстыльнае прадпрыемства — Мінскі камвольны камбінат. Сярод тысячы людзей на камбінаце працуе дасканалая ткачыха Зінаіда Бычкоўская, аб якой я і хацеў бы расказаць.

У 50-60 кіламетрах ад Мінска, сярод вечназялёных лясоў Лагойшчыны прытулілася невялікая вёска Калачы. Яна такая ж, якой была тут да вайны вёска Хатынь, спаленая гітлераўцамі ў 1943 годзе. Вёску Калачы фашысты абыйшлі бокам, але жыхары яе ў гады вайны таксама страцілі многіх сваіх сваякоў і блізкіх, перажылі ўсе жахі часовай акупацыі. У той жа вёсцы Калачы нарадзілася і вырасла будучая ткачыха Зінаіда Бычкоўская. Як і ў многіх іншых дзяцей, бацька Зінаіды не вярнуўся з вайны. На руках у маці засталося двое дзяцей. Зіне ў той час было каля трох гадоў, а яе брату Анатолю крыху больш года. Рана аўдавеўшай жанчыне прыйшлося прылажыць нямала намаганняў, каб у трывожны ваенны час зберагчы дзяцей, а пасля вайны — вырасціць, вывучыць іх, вывесці, як кажуць, у людзі.

Ішлі гады... У 1957 годзе Зіна паспяхова закончыла сельскую сярэднюю школу. Аднойчы сястра маці, якая працавала на Мінскім камвольным камбінаце роўнічніцай, запрасіла выпускніцу школы ў Мінск і паказала ёй новае, маладое прадпрыемства.

Дзяўчыне спадабалася тут усё: і вялізныя карпусы, і ўзорны парадак у цэхах, а галоўнае людзі, ствараючыя цудоўныя тканіны. І тады ж Зінаіда, доўга не думаючы, сказала.

— І я хачу быць тэкстыльшчыцай.

Яе жаданне задаволілі. Спачатку Зінаіда працавала ў прадзільным цаху вучаніцай. Вучаніца аказалася здольнай, любапытнай, працалюбівай. І таму да яе хутка прыйшла першая радасць — у кастрычніку 1958 года Зіна прасучыла першую нітку. А праз тры месяцы сяброўкі віншавалі Зінаіду з другой радасцю — яе перавялі з групы вучняў на самастойную работу. Зінаіда стала ткачыхай. Хутка асвоіла складаную прафесію. І неўзабаве прысвойваюць ёй званне Ударніка камуністычнага труда, а затым і званне „Майстар — залатыя рукі".

За дасягненне высокіх паказчыкаў у працы Зінаідзе Бычкоўскай Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Яна ўзнагароджана таксама ордэнам „Знак Пашаны" і знакам „Выдатнік сацыялістычнага спаборніцтва лёгкай прамысловасці СССР".

У 1975 годзе ў жыцці Зінаіды Бычкоўскай адбылася яшчэ адна надзвычай важная падзея — яна стала дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, а дэпутаты Вярхоўнага органа ўлады рэспублікі выбралі Зінаіду намеснікам старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Пройдзем, дарагі чытач, у прадзільны цэх камвольнага камбіната. У яго сценах льецца гучная песня соцень высокавытворчых прадзільных машын. На ўчастку, дзе стракацяць рознымі колерамі тысячы верацён, я сустрэў віцэпрэзідэнта Беларускай ССР прадзільшчыцу Зіну Бычкоўскую. Ёй і яе сяброўкам даручана выпускаць самую лепшую, самую высакаякасную чысташарсцяную пражу.

— Працуючы на гэтым камплекце 15-ы год, — расказвае падышоўшы да нас памочнік майстра Віктар Міхайлаў, — Зінаіда Бычкоўская абслугоўвае пастаянна чатырыста верацён. І ўсе яны працуюць у яе бесперабойна. Словам, залатыя рукі ў Зінаіды і добрае, шчодрае сэрца. Яна наш найлепшы сябра і добры дарадчык.

Тут жа ў цаху я даведваюся, што Зінаіда Бычкоўская свае навыкі і вопыт работы перадае маладым рабочым. Яна штогод абучае па некалькі чалавек навейшым метадам працы, дазваляючым маладым ткачыхам дасягнуць узроўню перадавікоў вытворчасці.

Закончылася рабочая змена. Зінаіда спяшае дахаты, у новы жыллёвы раён беларускай сталіцы — Серабранку. Вяртаецца дахаты і яе муж — Мікалай Рыгоравіч, які працуе электраманцёрам на падшыпнікавым заводзе. Прыйшоўшы дахаты, яна перш за ўсё разглядае свежую пошту — прышоўшыя сёння газеты, журналы, лісты працоўных, адрасаваныя дэпутату Вярхоўнага Савета рэспублікі Зінаідзе Бычкоўскай. Яна знаходзіць час, каб своечасова адказаць на кожнае пісьмо, дапамагчы чалавеку, калі ён гэтага патрабуе, штосьці падказаць, параіць яму ў жыццёвых справах.

А заўтра? Заўтра таксама праца на камбінаце, магчыма, тэрміновае запрашэнне ў Вярхоўны Савет, дзе на яго прэзідыуме будуць рашацца вельмі важныя і неадкладныя пытанні. Будуць, зразумела, заўтра, як і кожны дзень, і сустрэчы з новымі, цікавымі людзьмі, будуць і іншыя звычайныя і незвычайныя жыццёвыя клопаты і справы.

**А. Літвін**




**БЕЛАСТОЦКІ ШКЛОЗАВОД**

Прадукцыя многіх фабрых і заводаў у Беластоку ідзе не толькі на ўнутраны рынак, але і на экспарт. Вось, напрыклад, шклозавод. Ён складаецца з двух прадпрыемстваў: новага па вул. Свежай, у якім прадукуецца шкло для асвятлення і крышталь, і па вул. Рыжскай, дзе прадукуецца гастранамічнае шкло.

Новае прадпрыемства шклозавода выпускае чатыры тысячы тон шкла для асвятлення ў год. Тут прадукуецца больш 100 відаў шкляных вырабаў, між іншым лямпы для асвятлення жылых кватэр, прадукцыйных цэхаў, суднаў, вуліц.

„Старое" прадпрыемства прадукуе перш за ўсё шклянкі і чаркі.

Беластоцкі шклозавод экспартуе ў замежныя дзяржавы вырабы на 27 мільёнаў злотых у год.

У гэтым годзе на шклозаводзе будзе праведзена мадэрнізацыя. Новаабсталяваная электрычная ванна дазволіць прадукаваць каляровае шкло ў розных адценнях.

У 1978—79 гадах коштам 50 мільёнаў злотых пры „старым" прадпрыемстве будзе пабудаваны шліфавальны цэх і памяшканне для малявання шкляных вырабаў ва ўзоры і розныя колеры. Тады значна павысіцца якасць гэтых неабходных у штодзённым жыцці вырабаў.

Дырэкцыя беластоцкага шклозавода адкрыла на сваім прадпрыемстве прыфабрычную школу з акрэсленым загадзя напрамкам навучання. Вядома, прадпрыемству патрэбны адпаведна падрыхтаваныя рабочыя-спецыялісты. У гэтай школе ўсе ахвотныя, а перш за ўсё маладыя рабочыя, могуць павышаць сваю агульную і прафесіянальную адукацыю, напрыклад, у галіне плаўкі шкла і яго мастацкага афармлення.

У 1977 годзе будуць перададзены ў карыстанне гасцініца на 110 месц для пачынаючых рабочых і сталовая.

Апрача таго, у Вульцы каля Сямяціч шклозавод будуе свой цэнтр адпачынку.

(ця)




**Sobota 17.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 11.00 Trudna droga — film fab. koreański. 15.55 Pr. I prop. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Dziennik. 16.25 Obiektyw. 16.45 Kółko i krzyżyk — teleturniej. 17.00 Z pierwszą pomocą. 17.30 Za kierownicą. 17.50 Starym borom nowe damy imię. 18.15 Melodie zawsze młode. 18.40 Studio Olimp. 19.00 Dobranoc. 19.10 Monitor. 19.55 Uroczyste otwarcie Igrzysk Olimpijskich w Montrealu. 22.30 Dziennik. 22.50 Wiecz. Kino Letnie.

**Niedziela 18.VII.** 7.00 Tech. Rol. 7.20 Tech. Rol. 7.40 Przyp. radz. 7.50 Nowocz. w domu i zagr. 8.15 Bieg po zdrowie. 8.30 Wiad. sport. 8.35 Pr. dnia. 8.40 Antena. 9.00 Studio Olimp. 10.00 Kino Najmł. 10.25 W starym kinie: Świat komedii Harolda Lloyda. 11.20 Ostatni wolni Indianie. 12.00 Dziennik. 12.20 TYLKO W NIEDZIELE — blok. program. Public. Kultur. 19.00 Wieczorynka. 19.10 Dziennik 19.55 Studio Olimp. 21.55 TYLKO W NIEDZIELE — c.d. 23.15 Studio Olimp.

**Poniedziałek 19.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 12.25 Studio Olimp. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Dziennik. 16.25 Obiektyw. 16.45 Kino Zwierzyńca. 17.15 Testament starego miasta — film ser. radz. 18.20 Studio Olimp. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Teatr TV: W. Perzyński — Lekkomyślna siostra. 21.45 Dziennik. 22.00 Studio Olimp.

**Wtorek 20.VII.** Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 10.30 Eleonora — film ser. wł. 12.25 Studio Olimp. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Na wielkim i małym ekranie. 15.55 Lektury Pegaza 16.15 Dziennik. 16.25 Obiektyw. 16.45 Studio Telewizji Młodych. 17.45 Studio Olimp. 19.15 Przyp. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Paryscy Mohikanie — film ser. TV CSRS. 21.25 Interstudio 22.00 Dziennik. 22.15 Studio Olimp.

**Środa 21.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 10.30 Paryscy Mohikanie — film ser. TV CSRS. 12.25 Studio Olimp. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Los. Mał. Lotka. 16.10 Dziennik 16.20 Obiektyw. 16.40 Dla dzieci: film fab. 17.50 Studio Olimp. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Pani X przeprasza. 21.55 Dziennik. 22.10 Fantomas wraca — film fab. wł.-franc. 23.45 Studio Olimp.

**Czwartek 22.VII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Studio Olimp. 10.00 Muszkieterowie mórz — film fab. pol. 11.55 UROCZYSTA ODPRAWA WART PRZED GROBEM NIEZNANEGO ŻOŁNIERZA W WARSZAWIE. 12.40 Studio Olimp. 15.00 Biało-czerwona u brzegów Antarktydy — film dok. 15.35 Studio Interdisco. 16.40 Pegaz. 17.10 Studio Olimp. 18.00 Z najlepszymi życzeniami. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Polskie drogi — film TP. 22.10 Studio Olimp.

**Piatek 23.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 „Fantomas wraca — film fab. wł.-franc. 12.35 Studio Olimp. 16.25 Pr. dnia. 16.40 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.10 X Y Z cz. — II. 17.50 Studio Olimp. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Film fab. 22.00 Studio Olimp.




**Piątek 16.VII.** — 7.30 Film anim. 8.00 Film ser. 9.05 Koncert. 14.25 Film fab. 16.15 Film anim. 18.05 Koncert z udziałem L. Utiosowa. 19.30 Film ser. 20.35 Koncert.

**Sobota 17.VII.** — 8.00 Film ser. 12.00 Film dok. o Teatrze Wielkim. 14.00 Film anim. 16.15 Koncert. 17.30 Związek Radziecki w oczach świata. 17.50 Spektakl. 20.45 Koncert kwartetu japońskiego „Bonni Dziaks".

**Niedziela 18.VII** — 11.30 Film fab. 16.15 Film anim. 16.50 Uroczyste otwarcie XXI letnich Igrzysk Olimpijskich. 20.15 Film dok.




**Białowieża** Synowie szeryfa — USA 20—21. Nieuchwytny morderca — wł. 22—23. Zachłanne miasto — USA 24—25.

**Czyże** Dziewczęta jak iskry — węg. Tomcio Paluch — fr. 21—25.

**Dublicze Cerkiewne** Legenda o Pauli i Paulu — NRD No i co doktorku — USA 21—25.

**Gródek** Kazimierz Wielki — pol. 24—25.

**Kleszczele** Nocny cowboj — USA 20—21. Grzeszna natura — wł. 22—23. Największe wydarzenie od czasu, kiedy człowiek stanął na Księżycu — fr. 24—25.

**Michałowo** Taśmy prawdy — USA 20—21. Kalina czerwona — radz. 22—23. Alicja Bororo — czes. 24—25.

**Mielnik** Objazd — buł. 21. Zaklęte rewiry — pol. 24—25.

**Milejczyce** Net Kelly — ang. 20—21. Czy pasujemy do siebie kochanie — czes. 22—23. Przyjaciele Eddego — USA 24—25.

**Narew** Czerwone i białe — pol. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 21—25.

**Narewka** Dzieci lwicy z Buszu — ang. Nie ma róży bez ognia — pol. 21—25.

**Nurzec** Być kobietą — radz. 20—21. Wilk morski — rum. 22—23. Zemsta wilka morskiego — rum. 24—25.

**Orla** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 21—25.

**Rajsk** Kalina czerwona — radz. Drogi do ojczyzny — pol. 21—25.

B.Z.Graf. Zam. 1507. F-2.

 

# ВАЖНАЕ ЗВЯНО

(Працяг са стар. 1)

тыі. У ажыццяўленні вызначаных мэтаў патрэбна праца і свядомы ўдзел усіх частак грамадства. Таму і ў вашай статутовай дзейнасці, што вы падкрэсліваеце ў справаздачы, заўсёды выступаў палітычны змест, заангажаванне і папулярызацыя гаспадарскага падыходу да спраў краіны, свайго рэгіёну, гаспадаркі ці прадпрыемства. Задавальненню і свядомасці належна выкананых грамадскіх абавязкаў павінны спадарожнічаць роздум і пытанні: ці зроблена ўсё і ці ўсё зроблена належным чынам? Ці добра працуе таварыства і ці мэтазгодна выкарыстоўвае тыя сродкі і сілы, якія яно мае. Ці выхаваўчы працэс у гуртках знаходзіцца на належным узроўні, ці адпавядае патрабаванням сённяшняга дня.

Несумненна, многа яшчэ трэба зрабіць, каб падняць на вышэйшы ўзровень дзейнасць таварыства, умацаваць яго аўтарытэт у асяроддзях, дзе яно вядзе сваю статутовую дзейнасць. Трэба і ў далейшым працягваць развіццё тых форм грамадскай і культурнай працы, на якія запрос ад усяго грамадства, паказваць традыцыі і дасягненні таварыства. Трэба далей умацоўваць і паглыбляць сувязі таварыства з мясцовымі органамі ўлады і грамадскімі арганізацыямі, карыстацца іх вопытам і дапамогай і як аб справе асноўнага значэння — клапаціцца пра змест працы.

Ажыццяўленне пастаўленай партыяй вялікай мэты, якой з'яўляецца павышэнне якасці працы і ўмоў жыцця народа, можа наступіць толькі пры высокай актыўнасці партыі і ўсяго грамадства. Гутарка ідзе пра тое, каб гэтую атмасферу ўсеагульнага заангажавання ўмацаваць і выкарыстаць дзеля таго, каб былі штораз лепшыя вынікі ва ўсіх дзялянках грамадска-гаспадарчага жыцця. Таму мы ганарымся дасягненнямі Народнай Польшчы, таму мы так часта гаворым пра тое, што яшчэ трэба зрабіць, каб „Польшча расла ў сіле, і людзі жылі замажней".

Дзеля гэтага, павялічваючы самыя каштоўныя дасягненні, мы перш за ўсё ставім перад сабой новыя велічныя заданні і мэты. Палітыка, якую мы здзяйсняем пад кіраўніцтвам тав. Эдварда Герка, поўнасцю спраўджваецца, прынесла яна вынікі, значна пераўзыходзячыя першапачаткова пастаўленыя арыенціры. Ад усіх грамадзян нашай Айчыны залежыць, якая яна будзе сёння, заўтра і ў будучым. Словы павінны адпавядаць учынкам — вось дэвіз паводзін кожнага з нас. Клопаты аб краіне, яе паскораным развіцці — вось мэта, якая павінна акрэсліваць нашыя паводзіны.

Таварышы і грамадзяне дэлегаты!

Заданні з прапановамі напрамкаў працы на наступныя чатыры гады вы вызначаеце ў праекце праграмы VIII з'езду. Карыстаючы з нагоды сённяшняй нарады, хачу вам, а цераз вас усім членам і дзеячам таварыства, выказаць прызнанне і падзякаваць за дагэтуляшнюю працу, пажадаць яшчэ большых дасягненняў у будучай дзейнасці, а таксама многа здароўя і поспехаў у асабістым і сямейным жыцці.



*VIII з'езд БГКТ вітаюць ліцэісты. Фота З. Лянкевіча.*

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні „Дом кнігі" ў Саколцы, вул. Беластоцкая 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Майхровіч Сцяпан**, Георгій Скарына, 1966, стар. 188, цана 4 зл. 60 гр.

Гэтая папулярна-навуковая манаграфія пяра вядомага беларускага літаратара і навуковага работніка прысвечана жыццю і дзейнасці выдатнага беларускага першадрукара і асветніка Георгія Францішка Скарыны. Чытач знойдзе ў ёй асноўны фактaлагічны матэрыял, які дагэтуль вучоным удалося сабраць аб Г. Скарыне. Кніга выйшла да нагоды святкаванняў 450-годдзя беларускага друку (1967 год).

Беларускае народнае жыллё, 1973, стар. 126, цана 21 зл. 20 гр.

Першая ў гісторыі беларускай этнаграфіі манаграфія аб беларускім сялянскім паселішчы і будынках у ім. Аўтарамі гэтай глыбокай, са знаўствам напісанай працы з'яўляецца калектыў аўтараў Э. Р. Сабаленка, У. С. Гуркоў, У. М. Іваноў і Дз. Д. Супрун, выданне падрыхтавана ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. У манаграфіі разглядаюцца: пасяленні, тыпы забудоў, жыллё, будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі, планіроўка жылля, гаспадарчыя пабудовы, лакальныя асаблівасці і тыпы жылля, сучаснае сялянскае жыллё. Праца добра ўдакументавана.

**Шырма Рыгор**, Беларускія народныя песні, том I, 1971, стар. 328, цана 36 зл. 20 гр.

Новае выданне трохтомнага збору беларускіх народных песень, які вышаў у гадах 1959-1962. З асаблівай любоўю і незвычайным піетызмам падрыхтаваў нестар нашай беларускай фальклярыстыкі Р. Р. Шырма гэтае выданне. У яго першым томе знаходзім песні: сучасныя, каляндарна-абрадавыя, любоўныя, вясельныя, рэкруцкія і салдацкія, баладныя, сямейна-бяседныя, жартоўныя — разам 100 песень з нотамі. Дарэчы шэраг з іх Р. Р. Шырма запісаў у 20-я і 30-я гады на Беласточчыне — у ваколіцах Гарадка, Ялоўкі, Саколкі, Тапільца і іншых мясцовасцей.

**Лось Еўдакія**, Травіца брат-сястрыца, 1970, с. 152, цана 1 зл. 90 гр.

Зборнічак цікавых, жывых і свежых апавяданняў і замалёвак пяра сучаснай беларускай пісьменніцы. Сярод іх, між іншым, знаходзім нарыс „Цёплы польскі лістапад", у якім чытаем: „Мае сябры ў Польшчы — літаратары з Познані, Зялёнай Гуры і Беластока, добрыя польскія і беларускія хлопцы, таварышы па пяру і пазіцыі..."

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki" 16-100 Sokółka, ul. Białostocka 10

(мг)

## Некалькі слоў аб фальклоры і... самаўпэўненасці

Нядаўна Варшаўскі універсітэт выдаў на беларускай мове (апрача вокладкі) пад многаабяцаючым загалоўкам кнігу-падручнік А. Баршчэўскага „Historia literatury białoruskiej. Folklor".* Складаецца яна з „Уступу" (чаму тады на с. I — Уводзіны? На што гэты сінанімічны разнабой?!) і такіх пяці (ані шасці, як хоча нас угаварыць аўтар на с. 4) раздзелаў: I. Народная творчасць, звязаная з жыццём чалавека, II. Каляндарная абраднасць і звязаная з ёю паэзія, III. Прыродныя з'явы, надпрыродныя сілы і паходжанне чалавека ў народных уяўленнях, IV. Жанры і віды ў беларускай народнай творчасці, V. Збіральнікі і даследчыкі беларускага фальклору. Кожны з гэтых раздзелаў закончаны калоквіяльнымі „Пытаннямі і тэмамі". Затым у кнізе змешчаны „Паказчык імён" і „Важнейшыя публікацыі, прысвечаныя беларускаму фальклору". Сваю працу аўтар адрасуе студэнтам беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (таму „Пытанні і тэмы", бібліяграфія і бібліяграфічныя нарысы) і вучням беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. І, як сам какетліва сцвярджае далей: „На кніжку, якая змяшчала б у сабе весткі аб беларускім фальклоры чакаюць таксама (?!) актывісты Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, многія чытачы „Нівы" і многія жыхары Беласточчыны" (с. 4). Усім ім аўтар хоча даць у рукі залаты ключык „элементарных ведаў аб народнай творчасці".

Прызнацца, паяўленне гэтай кнігі выклікала ў першую хвіліну пачуццё задавальнення: нарэшце! Бо аб фальклоры гаварылася і гаворыцца ў нас здаўна і пры кожнай нагодзе: што ёсць столькі сабранага матэрыялу, што аж не вядома, што з ім рабіць. Не публікуюць яго і навукова ніхто ім не займаецца. І сапраўды ёсць кіламетры запісанай фальклорам магнетафоннай стужкі. Сотні старонак беларускай народнай творчасці маюць і М. Гайдук і М. Врублеўскі. Немалым фактычным матэрыялам дыспануе, як вядома, аўтар вышэй названай працы. Можна было тады спадзявацца...

Але задавальненне было заўчасным. Замест арыгінальнай, адпавядаючай навейшым навуковым патрабаванням, з сучасным крытычным апаратам працы, адкрываючай новыя гарызонты ў фальклярыстыцы (а чаму і не?), А. Баршчэўскі запрапанаваў падручнік „элементарных ведаў аб фальклоры". Але якраз элементарных ведаў аб фальклоры хоць адбаўляй і на якой хочаш мове. Калі недаступны студэнтам Варшаўскага універсітэта працы па беларускай фальклярыстыцы (хоць я ў гэта не веру), чаму ж яны не чытаюць на польскай, рускай, нямецкай ці іншых мовах. Таму вельмі шкада, што аўтар не выкарыстаў магчымасці навуковай апрацоўкі беларускага фальклору з Беласточчыны. Шкада, бо толькі навуковы

(Працяг на стар. 4)



*Канікулы! Над Бугам за вёскай Турнай зноў адпачываюць вучні ў гарцэрскім лагеры. Фота В. Рудчыка.*

## Заслужанае прадпрыемства

Праз некалькі месяцаў прадпрыемства па распаўсюджванні фільмаў у Беластоку будзе святкаваць 32 гадавіну сваёй дзейнасці. Яно мае сваю багатую гісторыю. Прадпрыемства арганізавала першыя цэнтры культуры на Беласточчыне. Ужо ў кастрычніку 1944 года арганізавала аб'язное кіно, а ў снежні таго ж года перадало ў карыстанне гарадское кіно „Свабода" ў Гайнаўцы, першае ў краіне. Па ініцыятыве прадпрыемства адбудоўваліся будынкі кіно і камплектавалася кінотэхнічнае абсталяванне. На працягу больш трыццаці год прадпрыемства заўсёды было ў авангардзе як у галіне распаўсюджвання кінафільмаў, так і ў выкананні шматлікіх вартасных грамадскіх прац.

Намаганнямі ўсяго калектыву паўстаў цэнтр адпачынку „Сонечная паляна" ў Аўгустове. Карыстаюцца ім таксама работнікі культуры і мастацтва з усяго Беластоцкага ваяводства.

У апошні час прадпрыемства адкрыла па-сучаснаму запраектаванае кіно „Камета" ў Сухаволі, адно з самых прыгожых у краіне.

Прадпрыемства па распаўсюджванні фільмаў узнагароджана ганаровым знакам „Заслужаны для Беласточчыны".

(ця)




### НАРАЎКА

Нараўка — асада спраўна,
многа вёсак навакол;
ест там цэрква праваслаўна.
й каталіцкі ест касцёл.

Ест там гміна і дзве школы,
усё, што трэба чалавеку,
ест лячніца для жывёлы,
і прыходня, і аптэка.

Зайсці можна да святліцы,
калі ў каго вольны час,
і на кіно падзівіцца,
дзе на шыльдзе піша „Ляс".

А зайшоўшы да гасподы,
выпіць можна, абы змог,
і зыйсці тады па сходах,
каб на двох — на чатырох.

Ест там рэчка пакупацца,
з галавою хоч улезь;
на лес добра паўглядацца,
блізка пушча Белавеж.

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі



 

(Працяг са стар. 3)

## Некалькі слоў аб фальклоры і... самаўпэўненасці

аналіз іменна такога матэрыялу мог бы тлумачыць сэнсоўнасць гэтай публікацыі.

Запытайма аўтара — каму ўсё ж такі адрасавана яго кніга-падручнік? Студэнтам філалогіі, ліцэістам ці той трэцяй катэгорыі: дзеячам, чытачам, жыхарам Беласточчыны? Як можна такой рознай публіцы даць аднолькавыя „элементарныя веды аб фальклоры“? Дальбог, не ўяўляю. Немагчыма, таму што элементарныя веды студэнтаў вышэйшай навучальнай установы ніколі не былі раўназначны элементарным ведам малаадукаваных жыхароў якой-небудзь Крывой Лукі, ці Патанаючых Бандароў!

Маючы на ўвазе, як здаецца, перш за ўсё: „многіх жыхароў Беласточчыны“, непатрабавальных і якім гэты падручнік — на што патрэбны?, аўтар гутарковай мовай (ах, гэта стылістыка! глядзі с. с. 5, 48, 65, 71, 79) у анекдатычнай месцамі форме, не прытрымоўваючыся навуковай дысцыпліны дакладу, „тлумачыць“ агульнавядомыя праўды аб фальклоры. Але ці беларускім толькі? А можа агульнаславянскім? Ці толькі ўсходне-славянскім? Бо якая розніца ў інтэрпрэтацыі, скажам, бога ці сатаны, ветру ці сонца і гэтак далей у рускім і беларускім, украінскім і беларускім фальклоры? Якія так званыя беларускія тэксты з'яўляюцца дзесятымі ці сотымі тэкстамі, выцякаючымі з ранейшых крыніц? А які фальклор сапраўды з'яўляецца унікальна беларускім ці нават толькі беластоцкім? А можа запісаныя студэнтамі беларускай філалогіі фальклорныя тэксты, упамянутыя аўтарам у працы, даўно запісаныя Карскім ці Федароўскім? Дарма шукаць адказы на гэтыя і іншыя пытанні, якія ўзнікаюць пры чытанні кнігі Баршчэўскага.

Насцярожвае да далейшых вывадаў аўтара прыведзеная ўжо на пачатку і неабгрунтаваная ў яго кнізе думка аб заніку фальклору (с. 1). Аўтар не вызначае ў сваёй працы паняцця „фальклор“, хоць павінен зрабіць гэта ў першую чаргу. Паняцце „фальклор“ мае шырокае значэнне, і таму яно неадназначнае. Ёсць жа не толькі так сказаць літаратурны фальклор, але і музычны, харэаграфічны, медыцынскі, мастацкі, матэрыяльны. У буржуазнай навуцы паняцце гэта звужаюць. Чужая ідэалагічна нам навука здаўна кальпартуе тэорыю аб фальклоры як аб перажытку, рэлікце культуры цывілізаваных дзяржаў. Марксісцкая навука не прымае гэты фальшывы пункт гледжання, таму што народная творчасць разглядаецца ёю як гістарычна развіваючаяся форма творчай дзейнасці народу. Чалавек па натуры сваёй ёсць мастак, і фальклор можа знікнуць толькі разам з чалавецтвам.

Насцярожвае таксама самаўпэўненасць аўтара, якая часта зводзіць яго да наіўнага тлумачэння і прымітыўных суджэнняў (напрыклад, с.с. 66, 80, 87, 129, 130 і г.д.), як і псеўданавуковых сказаў тыпу: „Першыя паэты свету напэўна наследвалі прыроду“, „Спеў чалавека паявіўся ў выніку наследвання птушкі“, „Фальклор з'явіўся вынікам шчырай эмацыянальнасці“ (с. 1), „Без агню не было б цывілізаванага жыцця. Цяжка без яго ўявіць таксама паэзію“. (с. 80), „Народ ніколі не бывае з'явай маналітнай“ (с. 108) і г.д. Не пазбаўлена кніга розных дробных недахопаў, як напрыклад, няправільны запіс зносак (с.с. 4, 9, 12, 19, 21, 23, 43, 44, 52, 55, 68, 71, 73, 77, 78, 79, 109, 155, 156), памылкі тыпу „Белоруссы-Белорусы“, „Яўхім-Яўфім“. Чаму па-беларуску аўтар піша Е. (Карскі), а не Я. (Яўхім) Карскі, Міхаіл (Федароўскі), а не Міхал? Ці можа гэта іншыя даследчыкі-фальклярысты? У „Паказчыку імён“ некаторыя прозвішчы без імён! Невыразна сфармуляваны многія „Пытанні і тэмы“ (напр., с. 99 п. 5, 6, 8, 9, 16, 17, 18, 20; с. 127 п. 28, 29, 30, 31). Можна было б спорыць з аўтарам, ці напэўна „Стаглаў“ быў свяшчэннай рускай кнігай (с. 43), як і з яго акрэсленнем загадкі (с. 103). Хоць гэтыя памылкі і належаць да дробязей, усё ж такі яны таксама ствараюць уражанне напісанай на каленях кнігі для беларускіх дзетак.

**Янка Чыквін**

Aleksander Barszczewski, Historia literatury białoruskiej. Część I. Folklor, Wydawnictwo Uniwersytetu Warszawskiego, 1976, 167 s., nakład 230 egz.



*82-гадовы Уладзімір Гвай (злева) і Ян Гвай успамінаюць цяжкі для іх першы дзень у свабоднай Белавежы.*

Пачатак на стар. 1

## Свабода прыйшла ў ліпені

зноў У. Гвай, — у мяне згарэла ўсё: хлеў клуня, плот, нават калодзеж лопнуў ад жары. На цэлае Сяло асталіся толькі ненарушанымі забудовы ў Фёдара Янюка, Уладзіміра Семянюка і Васіля Валкавыцкага, ды дамы ў Васіля Амельяньчука, Сімана Доўбыша і яўрэяў Мэера і Валкастаўскага“.

Іншыя раёны Белавежы асталіся так, як былі дагэтуль. Праўда, што нейкія дамы крыху папсавалі асколкі снарадаў, але гэта ў параўнанні з Заставай можна лічыць дробязямі.

Белавежа была свабодная. Але канца вайны трэба было чакаць яшчэ амаль цэлы год.

**П. Байко**
Фота аўтара

## З рэпарцёрскіх запісак

Праглядаючы свае рэпарцёрскія запіскі, я яшчэ раз пераканаўся, што на Беласточчыне наглядаецца безупыннае паскоранае развіццё гаспадаркі. У першым годзе цяперашняй пяцігодкі павелічэнне агульнага прыбытку склала ў нас 40—42%, а заработная плата за гэты час узрасла ў сярэднім на 16—18%.

Асабліва цешыць тое, што наш прыбытак накапляецца перш за ўсё ў выніку росту прадукцыйнасці працы, якая павялічылася амаль у паўтара раза ў параўнанні з мінулым перыядам.

І яшчэ адно варта ведаць. Гаспадарчае развіццё Беласточчыны зараз апярэджвае агульнадзяржаўныя паказчыкі. А гэта абазначае, што пасяхова дaганяем найлепшых у краіне.

Асабліва добрыя эфекты прынесла акцыя пошукаў прадукцыйных рэзерваў. У выніку гэтага вытворчая працаздольнасць прамысловых прадпрыемстваў Беластоцкага ваяводства павялічылася на звыш 370 мільёнаў злотых.

*

Сярод прадпрыемстваў, праца якіх спрыяла добрым гаспадарчым вынікам Беластоцкага ваяводства, знаходзіцца Беластоцкае будаўнічае прадпрыемства лёгкай прамысловасці. Ад 1969 года вартасць яго паслуг павялічылася разоў у дзесяць. Між іншым, яно будавала: фабрыку сучаснай упакоўкі ў Беластоку, жылы дом у Гарадку, яслі ў Васількове, склады для „Сяржана“ ў Беластоку.

Прадпрыемства пастаянна клапоціцца пра бытавыя справы рабочага калектыву. 24 працаўнікі атрымалі кватэры, закупленыя прадпрыемствам з будаўніцтва рады нарадовай, і такая ж колькасць рабочых перасялілася ў кааператыўныя блокі. Адначасова гэтае прадпрыемства дапамагае сваім рабочым будаваць уласныя асабнякі. У мінулым годзе 12 сем'яў ужо пасялілася ў такіх доміках, а 22 сям'і яшчэ будуюцца.

Кожны год 200 рабочых адначасова можа праводзіць водпуск ва ўласных курортных дамах адпачынку, якія знаходзяцца ў жывапісных і атракцыйных мясцінах, між іншым, і ля возера Белага ў Аўгустове.

(вр)

### ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Хлопец з Нурца.* *Фота В. Рудчыка.*

**У Міхалове**

## Мадэрнізацыя малачарскага прадпрыемства

Дагэтуль малачарскае прадпрыемства ў Міхалове перапрацоўвала ў сярэднім 30 тысяч літраў малака ў суткі. Паколькі з кожным годам колькасць малака ўзрастае, прадпрыемству былі неабходны больш прадукцыйныя машыны. Таму абсталявана другая мотапомпа дзеля таго, каб без лішняй затрымкі хутка пераліваць сырадой з кантэйнераў; пабудавана новая кацельная, перабудавана халадзільнае абсталяванне, новае больш сучаснае абсталяванне атрымала таксама казеінярня і тваражкарня.

Пасля рамонту міхалоўскае малачарскае прадпрыемства ізноў пачало прадукцыю. Пакуль што прадукуе першакласны казеін. Смятану адсылае ў Беласток.

Летам сяляне прадаюць больш малака, чым у іншыя поры года. Сёлета міхалоўскае малачарскае прадпрыемства добра падрыхтавана да скупкі і перапрацоўкі большай колькасці пахучага сырадою. І так павінна быць. Прадпрыемства будзе перапрацоўваць больш 40 тысяч літраў малака, а то і 50 тысяч у суткі. Можа і так быць, што ў выпадку звышпланавай скупкі малака, трэба будзе пусціць у ход рэзервовую казеінярню і сушарню. Малако неабходна ж купіць ад усіх дастаўцаў. Інакш сяляне знеахвоціліся б да развіцця гадоўлі кароў.

Цяпер, у час добраўпарадкавання малачарскага прадпрыемства, рабочым прыходзіцца і даўжэй, па-за гадзінамі, папрацаваць. Але, вядома, гэта неабходна. Усё з той мэтай, каб справіцца да сезона.

(ця)

**Беларуская літаратура** — **Аляксандар Баршчэўскі**

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА III

**Грамадскія вершы.** Да грамадскай лірыкі пісьменніка залічаем вершы: „Працуй і пей“, „У хаце светлай і прасторнай“, „Старасць“, „Мары“, „Каліва праўды“, „Ноч на Івана Купалу“, „Брату“, „Татка“. Апрача названых вершаў, грамадская праблематыка выступае таксама ў многіх вершах патрыятычных, прыродаапісальных, а нават гумарыстычных.

Грамадскія вершы Паўловіча можна раздзяліць на дзве групы. У першую ўвойдуць тыя творы, у якіх аўтар дае песімістычны малюнак рэчаіснасці, у другую — вершы з аптымістычным настроем.

Да песімістычнага цыкла належаць вершы: „Старац“, „Каліва праўды“, „Песня“, „Татка“.

Верш „Старац“ сваімі зместавымі і фармальнымі якасцямі набліжаецца да балады. У цэнтры твора пастаўлен жабрак. Паэт у пачатку дае досыць дэталёвую характарыстыку выгляду жабрака. Пасля выкарыстоўвае прыём рэтраспекцыі (накідванне мінулага на сённяшняе): гаворыць аб усіх яго сямейных няшчасцях, аб смерці блізкіх, а ў канцы пераходзіць да яго жабрачай практыкі. Твор заканчваецца як бы зваротам да ўсіх тых, хто на сваёй дарозе сустрэне старца:

*Яго не пытайце і жаль не ўздымайце,*
*Ён вам не здалее сказаць,*
*Як ў жыцці раз першы, крыж той падпершы,*
*Сеў з торбай, пачаў жабраваць.*
*Перш ён нясмела, хоць сэрца балела,*
*Прыгнуўся і сеў на зямлі.*
*Здалеўшы ўсе мукі, выцягнуў рукі*
*Да тых, што мінаючы йшлі.*

У вершы нямала меладраматычных элементаў. Аўтар намерана павялічвае, множыць няшчасці з жыцця жабрака. Твор „Старац“ — гэта эмацыянальная фатаграфія нешчаслівага чалавека. Цікава, што верш па сутнасці пазбаўлены маралізатарскага аспекту. Няма ў ім абвінавачання каго-колечы, няма таксама апеляцыі, звароту адносна дапамогі ці ратунку для жабрака. Адзіны зварот, які праяўляецца ў прыведзеным вышэй фрагменце верша, патрабуе ад людзей вельмі нямногага — „яго не пытайце“...

Агульны вывад з твора песімістычны: усе мы бяссільныя і безвіноўныя ў чалавечым няшчасці. Бяда чалавека — гэта вынік дзейнасці нейкага фатума.

Другі верш песімістычнага цыкла „Песня“ напісаны ад імя селяніна. Герой твора звяртаецца „да паночкаў“ і выясняе сваю жыццёвую праграму. У фармальным сэнсе верш не зусім лагічны. Непаслядоўнасць праяўляецца ў тым, што ў пачатку твора герой заяўляе, што яго жыццё „прывучыла век маўчаць“, але далей да канца гаворыцца аб сялянскай песні. Увесь твор — гэта так модная для нашаніўскіх пісьменнікаў скарга на жыццё. Герой як бы тлумачыцца, як бы выясняе, чаму яго песня мае сумны характар. Журботны настрой песні звязвае ён з характарам свайго жыцця, якое пазбаўлена якіх-колечы радасцей.

*Толькі ў полі за гарою,*
*Сошку дзержучы ў руках,*
*Песня вырвецца з слязою —*
*Плач ёй ўторыць па гарах.*

Твор „Песня“ не пазбаўлены вастрэйшых грамадскіх элементаў. Выступаюць яны ў канцы верша. Герой твора як бы пратэстуе супраць тых, „каму жывецца цёпла, сыта, пры грашах“. Аднак пратэст гэты пазбаўлены катэгарычнасці. Характарызуе яго слязлівасць, а нават супрацьстаўнае пратэсту паняцце — пакорлівасць. Чытаючы верш, мы адчуваем, што наступнае, больш рэзкае слова гэтага пратэсту скажуць дзеці героя, а не ён сам.




# НЕ ПРАЕХАЦЬ, НЕ ПРАЙСЦІ

Спатрэбілася нам паехаць у вёску Лушчу ў Чыжоўскай гміне. Праехаўшы праз Чыжы, мы павярнулі на дарогу, якая павяла нас направа. Зрэшты, згодна з дарожным указальнікам, які там стаіць. Да вёскі было кіламетры два. Мы павялічылі хуткасць, і на пэўным адрэзку дзесьці на паўдарогі цудам толькі не загразлі ў глыбокіх каляінах — ямах. Так можна было б назваць, каб быць бліжэй праўды. Былі гэта не нейкія там такія сабе выбоіны, ці як хто хоча ўхабіны. Аб'язджаючы пропасныя мулявыя лужы-азёры, мы трапілі на сялянскія пасевы. А варта дадаць, што дарогу ў гэтым месцы амаль кожны праезджы пашырае, абы абмінуць тое ліха ды і не загразнуць, бо дапамогі блізка ніякай. А пасевы тыя пацярпелі з-за дрэннай дарогі.

Дзіўна, што ніхто дагэтуль не захацеў узяцца адрамантаваць гэты невялікі адрэзак дарогі. А ён жа пагражае небяспекай усім праезджым, а ўжо асабліва тым, хто нетутэйшы. Гаспадары Курашава, Лядаў, Каменя і Лушчоў ездзяць у вёску Чыжы (тут гмінная ўправа, цэнтр здароўя, пошта, пункты скупкі хатняй жывёлы, збожжа і коранеплодаў) праз Лянева. Абмінаюць і дарма трацяць час. Але з нагрузкай не праехаць. Так бывае асабліва ранняй вясною, мокрай восенню і дажджлівым летам.

Ці не лепш было б наладзіць гэты невялікі адрэзак чыжоўска-лушчанскай дарогі?

Звяртаемся з гэтым пытаннем у першую чаргу да невялікай, але прыгожай вёскі Лушчы, у якой жывуць добрыя гаспадары ў прыгожых, задбаных хатах, у якой дзейнічаюць палітычныя арганізацыі, ды нямала ёсць грамадскіх актывістаў. Варта над гэтым падумаць гмінным уладам. Яны аб гэтым непраездным адрэзку нас інфармавалі і самі яшчэ сумняваліся, ці зможам праехаць напрасткі.

Думаем, што перш за ўсё за рамонт дарогі возьмуцца лушчане, можа яшчэ жыхары навакольнай той ці іншай вёскі. Дарога ж будзе служыць усім аднолькава і кожнаму трэба будзе ехаць. І найлепш, калі не наўкруг. Для лушчан гэтая дарога — адна з дарог у бліжэйшы свет. Варта задбаць пра яе.

**Іван Непаседа**

У гміне Гайнаўка ў мінулым годзе адрамантаваны многія мясцовыя дарогі. Адрамантавана дарога ад вёскі Хітрая да шашы Бельск-Гайнаўка, ад вёскі Барок таксама да шашы Гайнаўка-Кляшчэлі і з Галяковай Шыі да Рэпіскаў.

У гэтым годзе наладжаны наступныя дарогі: з Пасечнікаў Вялікіх у Арэшкава (адрэзак даўжынёю ў 1 км), з Гайнаўкі ў Ліпіны (1,4 км), з Прагалёў да бельска-гайнаўскай шашы і з Дубін у Катоўку.

У мінулым і ў гэтым годзе ў вёсках і паабапал палявых дарог гміны пасаджана даволі вялікая колькасць дрэўцаў і кустарнікаў.



## Каб вёскі былі прыгожыя, зялёныя

Дрэўцы тапалі садзілі ў сваёй вёсцы вучні гміннай пачатковай школы ў Дубінах, жыхары вёскі Навакорнін (пасадзілі яны 650 дрэўцаў тапалі), жыхары Новаберазова, рабочыя сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні ў вёсцы Бяльшчызна, жыхары вёскі Чыжыкі, сяляне вёскі Барок каля Новаберазова.

Дрэўцы ліпы і кусты чорных парэчак пасадзілі рабочыя калектыўнай сельскай гаспадаркі ў Навасадах. Сотні кустоў чырвоных і чорных парэчак пасадзілі жанчыны, члены КГВ у вёсцы Бяльшчызна, жыхары Дубін і Махнатага. У суме было пасаджана 1500 дрэўцаў тапалі, 500 дрэўцаў ліпы і столькі ж кустоў чорных і чырвоных парэчак.

Сёлетняй вясною ў Гайнаўскай гміне пасаджана 1500 дрэўцаў тапалі і 150 дрэўцаў рабіны і лістоўніцы. Садзіла іх пераважна вясковая моладзь, згуртаваная ў радах ЗСМП, з вёсак Навасады, Вялікія Пасечнікі і Навакорнін. Маладыя дзяўчаты і юнакі з гэтых вёсак прыступілі да конкурсу, звязанага з пасадкай маладых дрэўцаў у вёсках і паабапал мясцовых дарог. (ця)




Жыхары Бельска і навакольных вёсак, якія карыстаюцца з гэтага чыгуначнага вузла, вырашылі ездзіць зайчыкам. Якое ж тлумачэнне? А вельмі ж простае. Проста баяцца заходзіць у памяшканне, дзе знаходзяцца білетныя касы. Бо калі глянуць на бэлькі, якія сваім выглядам напамінаюць дугу, або на сцены, дзе вырва на вырве сядзіць, то аж сэрца ў пятках хаваецца. Тут жыццё даражэйшае, чым мандат. А можа і так удасца праскочыць...

(мш)

# СЛОВА АБ БЕЛЬСКІМ ПГР

Бельскі ПГР — гэта велізарны камбінат сельскагаспадарчай вытворчасці. Сядзіба дырэкцыі цяпер не ў Каменным Двары, а ў Бельску. Дзейнічае ён на тэрыторыі двух ваяводстваў — Беластоцкага і Ломжынскага. Як інфармуе нас намеснік дырэктара ПГР — Ян Бельскі, бельскі ПГР аб'ядноўвае 18 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. А вось некаторыя з іх: вялікія дзяржаўныя гаспадаркі ў Каменным Дворы і Дыдулях, прадпрыемствы адкорму свіней у Клейніках, мяшальня кармоў у Бранску, 2 сушарні зялёнай пашы ў Боцьках, 2 гарэлачныя бровары ў Пянткове і Паканеве, бойня ў Бельску і іншыя.

Вялікую ролю адыгрывае ПГР у загаспадарванні дзяржаўнага фонду зямлі, у тым ліку вялікай колькасці зямельных угоддзяў, прынятых ад гаспадароў за рэнты. І так, бельскі ПГР у 1974 годзе загаспадарваў 2,5 тысяч га, а цяпер на яго рахунку налічваецца 5,5 тысяч га, якія прыняты і засеяны. У апрацоўцы зямлі не толькі выкарыстоўваецца сучасная сельскагаспадарчая тэхніка. ПГР выкарыстоўвае таксама самалёт, які робіць вялікія паслугі для ўгнаення зямлі мінеральнымі ўгнаеннямі, а таксама ў ахове раслін, у хімічнай ліквідацыі пустазелля.

Дырэкцыя ПГР многа ўвагі звяртае на мадэрнізацыю былых спулдзельчых будынкаў, прыстасоўвае іх да патрэб жывёлагадоўлі. І так, напрыклад, у колішніх спулдзельчых будынках у Вульцы Выганоўскай, Маскеўцах і Гацьках гадуецца цяпер шмат свіней, колькасць якіх перавышае 3,5 тысяч штук.

У ПГР працуе 525 чалавек. Як сцвярджае таварыш Бельскі, будзе патрэба далейшага прыёму зямлі ад гаспадароў і будзе патрэба павелічэння ліку рабочых у ПГР. У сувязі з гэтым, на парцаўскіх землях у Бельску будзе разбудоўвацца гаспадарчы цэнтр з майстэрнямі і складамі, а таксама будзе будавацца блок на 60 сем'яў.

**М. Х.**
Фота аўтара



*Намеснік дырэктара бельскага ПГР — Ян Бельскі.*

## ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




*Ў суботу по вэчыэры*
*мыла Антоля сіены.*
*Ой, мыла, мыла собіе сокола,*
*сокола-чыстокрыльця —*
*Іванка-чорнобрыўця.*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# РАЗВАЖАННІ АБ ТРУСКАЛКАХ

Беластоцкае ваяводства ў вырошчванні трускалак займае трэцяе месца ў краіне — за Радомскім і Люблінскім ваяводствамі. Тут ёсць для гэтай культуры спрыяльныя ўмовы. Што важна, тут трускалкі даспяваюць амаль на два тыдні пазней, чым у Варшаўскім і Люблінскім ваяводствах, і тады прадаўжаецца сезон перапрацоўкі і замарожвання гэтых ягад. А, як вядома, трускалкі даспяваюць на працягу пару дзён, і нялёгка справіцца з іх скупкай ва ўсёй краіне і з іх загаспадараннем.

Беластоцкія трускалкі самай высокай якасці. Таму найбольш іх ідзе на экспарт у СССР і заходнія дзяржавы. Можна было б яшчэ шырэй развіваць прадукцыю трускалак. Але для гэтага патрэбна яшчэ прынамсі адно халадзільнае прадпрыемства для замарожвання фруктаў.

Прадбачваецца, што сёлета ўраджай трускалак будзе не меншы, чым шэсць тон з гектара. Агародніннны кааператыў, халадзільнае прадпрыемства і фабрыкі для пераапрацоўкі пладоў плануюць купіць звыш 10 000 тон трускалак (у мінулым годзе купілі 6 000 тон). У сезоне будзе дзейнічаць 110 пунктаў скупкі. На тры больш, чым было іх у мінулым годзе. Пункты скупкі прызапасілі больш 3,6 мільёна кошыкаў, так званых лубянак, якіх павінна быць дастаткова.

Ураджайныя плантацыі трускалак маюць сяляне з гмінаў: Заблудаў, Храбалы, Юхновец Дольны і вакол г. Беластока. Вырошчванне гэтай каралевы лета ім высока аплочваецца. Некаторыя з іх маюць і 2-гектаравыя плантацыі і збіраюць па восем тон трускалак з гектара. Пераважна гэта жыхары Войшкаў, Паўлаў, Плёсак, Рыбалаў і іншых вёсак. Дзякуючы трускалкам некаторыя гаспадары пабудавалі мураваныя інвентарскія будынкі, пасадзілі даволі вялікія сады або пачалі гадаваць больш кароў, свіней ці авечак.

Зараз чарговы трускалкавы сезон. Аб сёлетнім ураджаі шмат раней гутарылі мы з войшкаўскімі і плёскаўскімі гаспадарамі. Сказалі яны нам, што будзе ён добры — думаюць сабраць па шэсць і больш тон з гектара. Бо трускалкі ўрадзілі. Толькі на некаторых плантацыях было крыху „чорных" кветак, значыць захвачаных прымаразкам у час цвіцення. Сяляне-плантатары загадзя прызапасілі ў стадолах значна больш лубянак, як мелі іх у мінулым сезоне. Пчалярска-агародніннык кааператывы ў гэтым годзе з самай вясны адкрылі новыя пункты скупкі трускалак. Да іх лёгка трапіць, паколькі пастаўлены ўказальнікі з інфармацыяй. Пункты скупкі маюць вёскі Паўлы, Рыбалы, Козлікі, Плёскі і іншыя. Сяляне спадзяюцца, што сёлетняя скупка ў час самага інтэнсіўнага збору трускалак будзе больш спраўная, і не трэба будзе гадзінамі прастойваць у пасляабедннюю пару ў доўгіх чэргах. Кошыкаў павінна хапіць усім трускалкаводам.

Дадамо яшчэ аб адным. Ужо цяпер многія вёскі сталі слаўныя з-за трускалак. А Паўлы як адзіная вёска ў нашым ваяводстве арганізуе трускалачныя дажынкі. Сёлета будуць яны дзевятыя, а праз год юбілейныя, дзесятыя.

(ця)

# МОЖА БЫЦЬ ПРЫКЛАДАМ

Ужо шмат гадоў спажывецка-прамысловая крама ў Плёсках абслугоўвае мясцовых і навакольных сялян. Усяк было. Самі ведаеце, як гэта бывае, калі крама змяшчаецца ў прыватным будынку. То тое дрэнна, то гэта не так як трэба. Але ўжо дзесьці гадоў з дзесяць таму назад усё тут перамянілася. Пабудавалі новы прыгожы мураваны будынак са складам на тавары. Правялі ваду і забяспечылі памяшканне новай мэбляй, якую з году ў год папаўняюць. А вогуле новай каляінай пайшло ўсё ад чэрвеня 1973 г., калі працаўнікам стаў Анатоль Абрамюк, чалавек энергічны, з сярэдняй адукацыяй. Вельмі сур'ёзна аднёсся ён да сваёй працы, і ў краме запанавала ветлівасць і шчырасць. Дзякуючы сур'ёзным адносінам да працы і сваёй дакладнасці, паставіў ён плёскаўскую краму сярод найлепшых у бельскім ГС-е. Зараз працуе ён разам з жонкай Любай. Разлікі, якія вядуцца ў крамах, не выявілі тут ніякіх ані недахопаў, ані злішкаў. Усё так, як трэба.

Ды не толькі гэта. Ужо сам выгляд панадворка гаворыць пра гаспадара. Усё тут чыста, усё ўпарадкавана — ну, аж пастаяць хочацца. Адным словам, добра. Выкананне плана таксама выглядае дасканала. Дзеля прыкладу прывядзем месяц май гэтага года. Верце, гэта не нейкая спецыяльная падборка, а проста ўзяты апошні месяц, які быў уведзены ў дакументацыю. На 200 тысяч злотых плана выканана 310264 зл. Перавысілі план больш, чым у паўтара раза.

А ГС у сваю чаргу дбае аб забеспячэнні крамы таварамі. Запас тавараў у канцы мая склаў 493 тысячы 471 зл. Найважнейшае тое, што можна тут купіць розныя прылады, патрэбныя ў сельскай гаспадарцы. Ці ж не добра, калі ёсць у вёсцы такая крама? Шкада толькі, што іх не так многа.

**М. Шаховіч**

**ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ!**

З-за маёй рассеянасці (што часта здараецца ў часе інтэрв'ю), у „Ніве" ад 2.V.1976 г. выйшла памылка, за якую прашу прабачэння ў моваведаў, аўтараў артыкула аб Б. Тарашкевічу — А. Юрэвіча і А. Яновіча, змешчаным у кнізе „Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" пад рэдакцыяй А. Жураўскага. Зусім выпала з галавы, што кніга гэта — твор калегіяльны. Прашу прабачэння за маю рассеянасць.

**Аляксандра Бергман**

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ



*Заказвалі дзяўчаты з Парцава.*

# EWA BEM

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астрон! Мне прысніўся такі сон. Апынуўся я ў час акупацыі недзе на вёсцы. Не ведаю чаму, але гітлераўцы склікалі дзяцей з усёй вёскі і загадалі іх расстраляць, калі жыхары вёскі не пакажуць нейкага чалавека, пра якога я нічога не ведаў і іншыя таксама не ведалі. Памятаю добра, што я разумеў, якая навісла над намі пагроза, аднак рашыўся заступіцца за дзяцей і голасна сказаў, каб карнікі адпусцілі дзяцей, бо яны нічога не вінаваты. Яшчэ памятаю, што ў гэты момант раздаўся стрэл, і я ўпаў на зямлю, а пасля апынуўся ў нейкім памяшканні. Быў перакананы, што ўжо не жыву. Адчуваў, што ў мяне паранена ў двух месцах галава, быццам бы яе хто сякерай разрубаў. Нехта сядзеў каля мяне, але гэта быў нейкі чужы чалавек. Мае дзеці знаходзіліся ў суседнім пакоі і спалі. А жонкі дома не было. Я хацеў, каб хтосьці паклікаў лекара, аднак не мог прамовіць слова і шкадаваў, што я ўжо мёртвы і ніхто не можа мне памагчы. Адначасова здзіўляўся, бо пры сабе не бачыў крыві, аднак, адчуваў боль, калі дакранаўся рукой да ранаў.

Яшчэ памятаю, што прыйшла жонка і пачала ляментаваць, і ў гэты момант я разбудзіўся.

Віктар

Вайну сніць — нейкая непрыемнасць, саперніцтва і затрудненне ў справах. Але справы, у сувязі з якімі ў вас будуць клопаты, будуць высакародныя (вы ж заступіліся за дзяцей). Несумненна, у вашым сне адчуваецца таксама ўплыў мастацкай літаратуры (калі ў жыцці вам не давялося перажыць нечага падобнага). У кожным разе, справы вашы павінны скончыцца добра, бо плакала ваша жонка, ды і бачыць сябе ў сне паміраючым — азначае здароўе і даўгавечча.

**Астрон**

P.S. Магчыма, што вас сапраўды балела галава...

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ:** Паміж А. і Б. узнік спор за мяжу. Б. абгарадзіў сваю прысядзібную зямлю, а А. лічыць, што Б. заняў паласу яго зямлі шырынёю каля 1 метра. Ён сцвярджае, што мяжа ўстаноўлена яшчэ перад вайной у час камасацыі. Б. спасылаецца на тое, што ён ад вайны карыстаецца з сядзібы ў межах, якія вызначае пастаўлены плот. Якім спосабам можна вырашыць гэты спор?

**АДКАЗ:** Калі А. і Б. не дойдуць да згоды, спор могуць вырашыць наступнымі спосабамі: 1) Звярнуцца ў гміну з просьбай аб размежаванні ўчасткаў А. і Б. Калі адзін з іх не згодзіцца на прапанаванае ў гміне размежаванне, справа будзе перададзена ў суд, які вырашыць гэта канчаткова. 2) А. звернецца непасрэдна ў суд з патрабаваннем, каб Б. перасунуў плот на свой участак за мяжу. У гэтым выпадку суд, каб вырашыць справу, вымушан будзе сам правесці размежаванне. Суд размяжуе ўчасткі перш за ўсё праўным станам. Гэткі стан, безумоўна, вызначае камасацыйная карта, калі яна захавалася. Аднак, калі б аказалася, што Б. карыстаўся з прымежнай паласы зямлі ад вайны, ён стаў бы ўласнікам яе з-за даўнасці, і гэта стварыла б новы праўны стан. Аднак, калі б перад узнікненнем спору паміж участкамі не было плоту або іншых выразных знакаў, якія размяжоўваюць участкі, нельга было б сцвярджаць, што Б. карыстаецца ад вайны спорнай паласой зямлі.



*РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ. Архітэктурны комплекс былога манастыра ў Супраслі каля Беластока. XVII—XVIII стагоддзі. Фота М. Гайдука.*




Мне 19 год, я закончыла сярэднюю школу, але чатыры гады назад памерла мая мама. Больш года мы жылі ўдваіх з бацькам. Але было нам цяжка адолець усе дамашнія абавязкі, і бацька пачаў думаць, што трэба ажаніцца. Так і зрабіў. Узяў за жонку незамужнюю жанчыну з 17-цігадовай дзяўчынай. Я была задаволена, што нас будзе дзве, бо зайздросціла тым, што маюць сясцёр ці братоў. Спачатку сапраўды было нядрэнна. Але нядоўга. Мачыха ўзяла ўладу ў свае рукі, і бацька мой, чалавек паслухмяны, выконваў усе яе загады. Да мяне адносілася штораз горш, а хухала-дмухала толькі на сваю. А ўжо ўвогуле збесілася, калі да мяне пачаў прыходзіць хлопец. Ён ужо мае вышэйшую адукацыю і неўзабаве стане на працу. Мы кахаем адзін другога, і гэта баліць мачысе. Яна хоча нас парозніць. Пачала мне яго ганіць, але я даведалася, што і на мяне яна яму пляткуе. Мы ўжо на восень планавалі пажаніцца, але аб гэтым у хаце я не гаварыла, баюся, каб мачыха дзе-чаго не папсавала нам. Сэрцайка, што рабіць?

Аня з Беластока

Аня! Ёсць мачыхі, якія сапраўды патрапяць выраўнаць, хаця ў пэўнай ступені, крыўду дзяцей, якія страцілі маці, не дзеляць дзяцей на „маіх" і „тваіх". Табе, на жаль, не пашанцавала. Але найважнейшае, што ты ўжо дарослая, закончыла школу. Да таго яшчэ маеш хлопца, з якім плануеш звязаць сваё жыццё. І не бойся, скажы, што будзеце жаніцца. А плёткам, якія мачыха рассявае, думаю, хлопец твой верыць не будзе. Ён жа разумны, адукаваны мужчына.

**Сэрцайка**

P.S. **І.М.!** „Сэрцайка" ўдзяляе парад толькі ў сардэчных справах, а паколькі ваш ліст датычыць гаспадаркі і вашай будучыні ў сувязі з ёю, мы перадалі яго юрысту. Ён і дасць вам адказ у рубрыцы „Кансультацыя юрыста".

## Куток практычных ведаў




# МАСЛЯНКА

Нейк маслянкай у нас пагарджаюць. Зрэшты, большасць людзей не ведае і не прабуе даведацца, ці здарова яе піць, што з яе можна зрабіць, як падаваць, колькі ў ёй знаходзіцца калорый.

А маслянка ж з'яўляецца каштоўным і здаровым напіткам, багатым бялком, вугляводамі, кальцыем, фосфарам і жалезам, а таксама вітамінамі $A_1$, $B_1$, $B_2$, PP і С. Дзякуючы таму, што ў маслянцы знаходзіцца малочная кіслата, паявялічваецца выдзяленне жалудачнага соку, а на страўленне бялка маслянкі арганізм аддае ў 4 разы менш энергіі, чым, напрыклад, на тое, каб стравіць бялок хлеба.

Наогул, хто ўжывае маслянку, то завычай яе выкарыстоўвае проста як напітак. А можна ж з яе рабіць таксама халаднік, розныя крэмы, кактэйлі, вітамінныя напіткі з гароднінай, фруктамі ці гароднíннымі і фруктовымі сокамі. Можна рабіць з маслянкі таксама напітак з цукрам і дражджамі.

Сёння падаем рэцэпт на здаровую страву, якая дасканала заменіць вам суп у гарачыя летнія дні.

На 3—4 шклянкі маслянкі трэба ўзяць штук 10 дробна нарэзанай радыскі, пасечаную зялёную цыбулю ці ўкроп, крыху солі па смаку.

Падаваць гэтую страву трэба астуджанай, можна дадаць па лыжачцы смятанкі на шклянку маслянкі. Можна падаваць яе таксама з варанай бульбай.

Пры ўсім гэтым неабходна памятаць, што піць маслянку павінны людзі, якія хочуць пахудзець, літр маслянкі дае толькі 360 калорый.

**Гаспадыня**






Амаль у дзве гадзіны пачуўся грукат цягніка. На сігнал спыніцца машыніст адказаў працяглым гудком. Тады да рову гудка далучыліся кулямётныя чэргі і вінтовачныя стрэлы: партызаны дзейнічалі дакладна па плану. Цягнік, заскрыгатаўшы тармазамі, рэзка замарудзіў ход і спыніўся. І адразу ж па сігналу камандзіра партызаны спынілі агонь.

— Супраціўленне бескарыснае. Вы акружаны вялікімі сіламі партызан Мухі! — гучна крыкнуў на польскай мове Арлоўскі. — Здавайце зброю!

І страляніна, і імя Мухі-Міхальскага падзейнічалі ашаламляльна на ваяводу, яго світу і шматлікую ахову. Цягнік маўчаў. Але калі група Раманчука з прыдарожнага хмызняку кінулася да вагонаў, адтуль пачуліся рэдкія бязладныя стрэлы — хтосьці з аховы ваяводы ўсё ж адкрыў агонь. Партызаны заляглі пад вагонамі, пачалася перастрэлка. Пакінуўшы чатырох байцоў, каб адцягнуць увагу аховы перастрэлкай, Раманчук са Сцяпанам Янушкевічам і Дзмітрыем Карпенем ускочылі ў салон-вагон. Перапалоханыя насмерць ваявода і яго світа ўзнялі рукі.

— Пан ваявода, атаман Муха патрабуе, каб вы загадалі спыніць агонь! Інакш мы ўзарвём салон-вагон і вагон з аховай! — паставіў умову Раманчук.

У гэты час паравозны гудок заглушыў гукі стрэлаў, затым раздаўся моцны выбух. „Камандзір адправіў паравоз на Лунінец, а хлопцы ўзарвалі мост", — здагадаўся Раманчук. Гэта быў вельмі важкі і своечасовы аргумент, каб Даўнаровіч прыняў ультыматум партызан.

— Перадайце ахове мой загад не страляць, — звярнуўся ваявода да начальніка акруговай паліцыі Мянсовіча.

Паліцыя склала зброю.

Для афіцыйных „дыпламатычных" перагавораў ад імя партызан Палесся ў салон-вагон увайшоў Кірыла Арлоўскі. Групы Каржа і Раманчука правяралі пасажыраў.

— Што ж вы, яснавяльможны пан, не сустракаеце Муху-Міхальскага? — звярнуўся Арлоўскі да збялелага ваяводы?

— Вы — Муха?! — ваявода недаверліва агледзеў несамавітую постаць Кірылы Арлоўскага.

— Я. Уласнай персонай. Даведаўся, што ваша правасхадзіцельства праз сваіх старастаў, паліцэйскіх разаслалі мне запрашэнне. І мільярды паабяцалі ім за арганізацыю нашай сустрэчы. Вось я і вырашыў: трэба дапамагчы пану ваяводу, а заадно — даць казне магчымасць сэканоміць мільярды. Яна ж і так небагатая.

Ваявода маўчаў. Маўчала і яго світа.

— Чаго ж вы маўчыце, паны? Ці не рады сустрэчы? Ці язык цяляты аджавалі?

— Я ваш палонны, але я ўсё ж ваявода... — нарэшце выціснуў з сябе Даўнаровіч. — Размова не па этыкету...

— Ну што вы, пан ваявода? Этыкет мы строга захоўваем. І абыдземся з вамі згодна з вашым этыкетам. Раней вы аддавалі загады лупцаваць сялян, а цяпер прыйшла ваша чарга здзець порткі і паспрабаваць, якія яны, розгі.

Па патрабаванні Арлоўскага ваявода са світаю выйшаў з вагона. На вачах ва ўсіх пасажыраў партызаны правучылі фанабэрыстага пана. Праўда, самі яны нават не дакрануліся да ваяводы. Жорстка адлупцаваў яго... адзін з афіцэраў аховы. „Гонар" высцебаць начальніка акруговай паліцыі Мянсовіча дастаўся яго падначаленаму афіцэру.

І хоць Арлоўскі не аддаваў загаду наконт сенатара Віславуха, афіцэр, што лупцаваў ваяводу, праявіў уласную ініцыятыву і ўзяўся за сенатара... Сталі высокія чыны, рагаталі салдаты. Афіцэр, які ўвайшоў у азарт пасля лупцоўкі сенатара, рашуча падышоў да епіскапа Лазінскага.

— Адставіць! — рэзка спыніў расчырванелага афіцэра Арлоўскі.

Тым часам партызаны раззброілі паліцыю. Павыкідаўшы зброю паліцэйскіх праз вокны, Раманчук са сваёй групай накіраваўся ў наступны вагон.

— Калі я ўскочыў у гэты вагон, — успамінаў пасля Іван Гарасімавіч, — у мяне аж у вачах пацямнела і валасы сталі дыбам ад нечаканасці і страху: вагон быў біткомнабіты салдатамі, а пра тое, што ў цягніку ёсць салдаты, мы і не падазравалі.

Са здранцвення Раманчука вырваў сержант.

— Салдаты не стралялі, яны гатовы аддаць зброю, — далажыў ён Раманчуку і працягнуў яму свой карабін.

— Віват, жалнежы! — знайшоўся Раманчук.

— Віват! — не зусім дружна адказалі яму салдаты.

Услед за сержантам здалі зброю і салдаты.

Аднак кроў усё ж пралілася. Калі партызаны зайшлі ў вагон-рэстаран, афіцэры, што сядзелі там, спрабавалі супраціўляцца. Загаварыла партызанская зброя. Два афіцэры былі забіты, некалькі паранена. Партызанаў кулі не зачапілі.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВІНШУЕМ!

Цешуся я і ўсе чытачы „Нівы“, што рэдакцыя атрымала ўзнагароду.

Узнагарода ўзніме яшчэ на вышэйшы ўзровень нашу „Ніву“ і мы, карэспандэнты, усімі сіламі будзем табе памагаць.

Ваяводская рада нарадовая адным значком сказала ўсё: „Заслужаная для Беласточчыны“. Так, заслужаная „Ніва“! 20 год штотыдзень ты прыходзіла на беларускія вёскі і на сваіх старонках несла нам усялякія весткі.

Змяняліся твае весткі, так як змянялася жыццё Беласточчыны. Рабілася ты штораз мудрэйшая, здабывала пашану і новых чытачоў, і так дачакалася справядлівай ацэнкі.

Няхай той значок ярка свеціць на тваёй старонцы на радасць рэдакцыі і ўсім тваім сябрам.

Я думаю, што прызнаная ўзнагарода поўнасцю апраўдана. У сваёй далейшай працы дакажыце, як „Ніва“ даражыць Беласточчынай і для яе працуйце колькі будзе сіл. Усёй рэдакцыі „Нівы“ словы ўдзячнасці за дасягненні і пажаданне яшчэ лепшай, плённай працы для развіцця нашага ваяводства і краіны!

**Э. Вайсковіч**

* ✲ *

У гэтым годзе БГКТ, рэдакцыя „Ніва“ і ўсе мы адзначылі некалькі радасных гадавін. Ад 26 лютага г.г. Беларускаму таварыству пайшоў трэці дзесятак гадоў яго дзейнасці, а ў тыдзень пазней 4 сакавіка мінуў юбілейны дзень нараджэння нашага роднага часопіса „Ніва“. 23 мая мы, карэспандэнты, правялі свой чарговы з'езд, а праз тыдзень адбыўся VIII з'езд БГКТ. Коратка сказаўшы, 1976 год — гэта год юбілейны. А калі дабаўлю, што з выпадку гэтага юбілею „Ніва“ атрымала залаты знак „Заслужаны для Беласточчыны“, а некалькіх журналістаў „Нівы“ Рада Дзяржавы ўзнагародзіла Залатым і Сярэбранымі Крыжамі Заслугі, яшчэ радасней робіцца на сэрцы.

Мне радасна, што наша родная „Ніва“ мае такі высокі аўтарытэт сярод шырокага круга чытачоў і сімпатыкаў, партыйных і дзяржаўных улад. Веру, што рэдакцыя „Нівы“ апраўдае ў будучыні сваё прызванне.

Мінулае 20-годдзе паказала, што мы, беларусы, улажылі таксама вялікую частку свайго сэрца і сіл у пабудову нашай сацыялістычнай краіны, а „Ніва“ з гонарам паказвала ўсім нашы дасягненні. Дзякуй ёй за гэта!

З нагоды прызнання „Ніве“ залатога знака „Заслужаны для Беласточчыны“ шлю ўсёй рэдакцыі самыя сардэчныя віншаванні. Жадаю, каб наступны юбілей прынёс „Ніве“ далейшыя ўзнагароды, а яна каб з гонарам распаўсюджвала па ўсім свеце наша роднае, беларускае слова.

**Ул. Сідарук**

---

Па загаду Арлоўскага Корж і Раманчук раздалі салдатам ледзь не ўсе грошы, узятыя ў паштовым вагоне, групу салдат запрасілі ў вагон-рэстаран, пачаставалі гарэлкай.

Знайшоўся занятак і цывільным пасажырам: яны тапілі ў блізкім балоце зброю салдат і паліцэйскіх.

Чаму ж польскія салдаты не ўступілі ў бой з партызанамі? Калі б хоць невялічкая частка салдат адкрыла агонь — жменька смельчакоў была б знішчана. Можа здарылася гэта таму, што побач не было афіцэраў (яны ніколі не ездзілі ў адных вагонах з салдатамі) і не было каму аддаць загад? Можа і так. Але галоўнае, відаць, — у адносінах партызан да салдат. Байцы Арлоўскага, Ваўпшасава і іншых камандзіраў ніколі першыя не нападалі на салдат і не забівалі іх. Калі ж тыя траплялі ў палон, то партызаны абыходзіліся з імі па-братэрску, хутка адпускалі, часам нават са зброяй. Салдаты адказвалі ўзаемнасцю; пры сустрэчы з партызанамі, калі побач не было афіцэраў, рабілі выгляд, быццам нічога не бачаць. Польскія ўлады добра ведалі, што іх жаўнеры не хочуць ваяваць з беларускімі партызанамі, і для павышэння баяздольнасці і надзейнасці стваралі змешаныя карныя атрады — з салдат і паліцэйскіх. Аднак і тут было мала толку: салдаты ненавідзелі паліцэйскіх, называлі іх „канарыкамі“, часта нават лупцавалі.

(Працяг будзе)

*З чыгуначнай Чаромхі*

## ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ

У доме культуры „Калеяж“ у Чаромсе адбылася сустрэча гміннага камітэта ПАРП і гміннай управы з перадавымі гаспадарамі Чаромхаўскай гміны. У сустрэчы прынялі ўдзел І сакратар ГК тав. Казімір Краўчык і начальнік гміны мгр інж. Сяргей Сац. Тут сустрэўся авангард працаўнікоў гаспадаркі з тэрыторыі ўсёй гміны. Васіль Астапковіч з ст. Чаромха, Дзмітры Кердалевіч з Чаромхі-вёскі, Дзмітры Назарук з Волькі Тэрахоўскай, Мікалай Маркевіч з Кузавы, Мікалай Сцепанюк з Паўлаў, Русін і Маркевіч з Беразішчаў — гэта толькі некалькі прозвішчаў 26-асабовай групы ўдзельнікаў сустрэчы земляробаў.

Прысутных прывітаў, а таксама паведаміў аб выніках абзору вёсак (такі абзор быў праведзены ў краіне) начальнік гміны С. Сац. Ён таксама паінфармаваў удзельнікаў сустрэчы аб веснавых працах у полі.

Тав. К. Краўчык спасляўся на пастановы II пленума ЦК нашай партыі ў справе рэзерваў у вытворчасці сельскай гаспадаркі, а таксама на формы дапамогі для тых гаспадарак, якія рэзерваў тых не выкарыстоўваюць.

У час дыскусіі ўдзельнікі сустрэчы гаварылі аб сваіх дасягненнях і цяжкасцях. У час сустрэчы тав. Мікалай Міхальчук — ляснічы з Волькі Тэрахоўскай і гаспадыня Антаніна Ярмуловіч з Баброўкі за дасягненні ў свінагадоўлі атрымалі сярэбраны знак „Заслужаны для Беласточчыны“. 4 асобы атрымалі ганаровыя граматы беластоцкага ваяводы, 10 асоб — ганаровыя граматы начальніка гміны і 5 асоб — кніжныя ўзнагароды.

* ✲ *

Таксама ў Чаромсе адбылася сустрэча працаўнікоў бельскага надлясніцтва, прадстаўнікоў чаромхаўскага лясніцтва з грамадска-палітычным актывам гміны і кіраўнікамі чыгуначных устаноў Чаромхі. У час сустрэчы надляснічы з Бельска тав. Ул. Федарук гаварыў аб выкарыстанні няўгоддзяў на лесапасадку, аб дапамозе чаромхаўскіх устаноў у гэтым мерапрыемстве бельскаму надлясніцтву, аб пабудове воднага басейна ў Рэпчыцах, а таксама аб іншых справах, якія датычацца лесапасадкі. Пасля сустрэчы ўсе прысутныя паехалі ў лес на экскурсію.

**Ул. Сідарук**

---




## ВСЯК БЫВАЕ НА ОДДЫХУ

Дзісяй
едут всіе на оддых,
мужык, бухальтэр... і коваль,
ждут на добрую погоду,
гледят тоскліво...
в „сіню даль“.
Хто у горы, хто над морэ
Выбыраются із дому,
Часом сам... а часам вдвое,
офіцяльно... покрыёму,
кажды укладае план
...спаковавшы чумайданы,
„гінэ бы той камэнь в воду“.

*

Трэба вміеты оддыхаты.
Знаты, што хто любыт.
Долікатно міесце выбыраты.
Тонкі з тонкім, грубы з грубым,
Можно тож наоборот.
Оддыхае разны дзісь народ.
Йе такіе, напрымер,
што шукают чорт відь чого.
Постоянно нарыкают
то на мясо,
то на каву...
Нэ дай Бог
такого вам сусіеда
пры снэданях і обедах.
— Вуон отравыт вам сезон —
Одбэрэ вам апэтіт,
пэрэрвэ спокуойны сон
уключывшы патіфон.

*

Хочто віртэ, хочто ніе...
На курортнікув
такого рода
то аж жаліться
прырода.

**Іван Кірызюк**

## НОВАЯ ЛІНІЯ

29 чэрвеня аддзел ПКС у Беластоку адкрыў новую аўтобусную лінію. Ідзе яна з Гайнаўкі ў Беласток праз вёскі Пуціска і Чыжыкі. Жыхары гэтых вёсак, хацеўшы ехаць у Беласток, былі вымушаны дагэтуль дабірацца да аддеглай у чатырох кіламетрах Гайнаўкі, а зараз могуць ехаць у ваяводства, так сказаць, ад сваёй хаты. Вялікія словы ўдзячнасці дырэкцыі ПКС.

**Сярсацкі**

## СУСТРЭЧА З МОЛАДДЗЮ

У памяшканні „Практычная пані“ ў Бельску адбылася сустрэча спулдзельчай моладзі „Сполэм“, якая працуе ў Бельску, з дырэктарам Генрыкам Вуйцікам і дзеячамі маладзёжнай федэрацыі. Прыйшло звыш 60 асоб. 11 асобам былі ўручаны членская білеты маладзёжнай арганізацыі.

Многа гаварылася аб далейшай працы моладзі ў „Спомаш“ ВСС — аддзел Бельск. Дырэктар высока ацаніў арганізаваныя конкурсы, грамадскія пачыны і іншыя мерапрыемствы. На заканчэнне адбыўся кулінарны конкурс, які выйграў Уладзімір Гадоньчук.

**Іван Кірызюк**

## ЦІ ГЭТА РАМОНТ?

Нядаўна ладзілі дарогу з Гайнаўкі праз Істок у Дубічы Царкоўныя. Работы вяліся звыш месяца. У канцы мая дарога была аддадзена ў карыстанне. І цяпер там столькі калдобін, што немагчыма праехаць.

Людзі цікавяцца, ці слова „рамантаваць“ абазначае тое самае, што псаваць?

**Марко**

## „ФАХОЎЦЫ“

У Дубічах Царкоўных людзі, здаецца, культурныя, але многа ёсць „фахоўцаў“ сярод наймалодшых. Паштовую скрынку, якая вісіць на сцяне святліцы, штодзённа нехта „рамантуе“ і дзверцы ў ёй адчыняе. І, вядома, лісты кідаць у такую скрынку страшнавата, бо „майстры“ могуць зацікавіцца іх зместам. Пісьманосец, як не стараецца, і колькі ўжо разоў не рамантаваў замок скрынкі і, здаецца, добра — зубамі не адчыніш. Аднак на другі дзень замок разбіты і дзверцы зноў адчынены. Вандалы сваё зрабілі. Вядома, гэта работа наймалодшых хуліганаў, а мо нават і не наймалодшых. Дык няхай ведаюць: калі іх у школе не навучылі розуму, дык міліцыя навучыць. Прыпільную, каму на галаве вісіць гэтая скрынка, бо гэтая справа датычыць мяне асабіста. І каб пасля хуліган не наракаў.

Пісьманосец **М. Панфілюк**

## ЯК НА ФЭСТЫНЕ Ў СВІНАРОЯХ

Ужо ў традыцыю ўвайшло ў жыхароў гміны Нараўкі і яе ваколіц пабываць на фэстыне. Ад самай раніцы едуць і ідуць людзі на лясную паляну. Арганізатары рыхтуюць многа цікаўнасцей. Так было і ў гэтым годзе ў Свінароях. У афіцыяльнай частцы аб праблемах польскіх вёсак гаварыў радны ВРН, прэзас гміннага камітэта ЗСЛ тав. Мечыслаў Гайдук. У мастацкай частцы выступалі школьнікі з Нараўкі і Ляшукоў. Больш за ўсё слухалі людзі беларускія песні ў выкананні Аляксандры Кісялеўскай са Стачка і квартэту жанчын, які спявае пры клубе „Рух“ у Луцэ.

Былі спартыўныя розыгрышы. Вялікая колькасць людзей пры спартыўнай пляцоўцы сведчыць, якое вялікае ў нас запатрабаванне на такія мерапрыемствы.

За ўзнагароды прэзаса ГК ЗСЛ змагаліся працаўнікі надлясніцтва Броўск у Грушках і цаглянага прадпрыемства ў Старым Ляўкове. Яны ігралі ў валейбол, футбол, цягнулі вяроўкі, ездзілі спраўна на веласіпедах, падымалі цяжары. У агульным ліку выйграла каманда надлясніцтва, кіраўнік якой Барыс Савіцкі прыняў галоўную ўзнагароду — па-мастацку зробленую драўляную талерку.

Мясцовы ГС забяспечыў фэстын з гандлёвага боку. Варта аб гэтым сказаць добрае слова, бо яшчэ такога добрага давозу прадуктаў у кіёскі дагэтуль не было. ГС пастараўся нават, каб быў гарачы бігас, які можна было б з'есці на дубовых лясных сталах. Да позніх гадзін вечара гучала музыка для танцаў пад свінаройскімі дубамі. Апараты, закупленыя гмінай, вельмі прыдаліся на фэстыне. Успамінаў было многа. Дзень прайшоў удачна, і людзі гаварылі, што хочуць сустрэцца тут праз год.

**Аляксандр Закройшчык**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## ТРАТУАР У КРЫВЯЦІЧАХ БУДЗЕ

У 14 нумары „Нівы“ апублікавалі мы карэспандэнцыю Івана Кірызюка аб тратуары ў вёсцы Крывяцічы, які робіцца ўжо пару год. Ніжэй прыводзім адказ начальніка гміны ў Орлі, які нас цешыць, бо вырашае справу па-гаспадарску.

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w tygodniku „Niwa" Nr 14 z dnia 4.04.1976 roku w sprawie budowy chodników we wsi Krywiatycze, Urząd Gminy w Orli informuje: budowa chodników we wsi Krywiatycze jest prowadzona w ramach czynów społecznych. W br. pismem naszym z dnia 28 lutego 1976 r. Nr 40/2/76 w zakładzie betoniarskim w Orli zostało zamówionych 5500 szt. płytek chodnikowych i 200 szt. krawężników z przeznaczeniem dla wsi Krywiatycze.

Obecnie płytki sukcesywnie są odbierane z betoniarni w Orli przez mieszkańców wsi Krywiatycze. Czyn społeczny mieszkańców — to przewóz płytek i krawężników, przygotowanie podłoża, dowóz piachu i układanie chodnika w obrębie swoich posesji. W chwili obecnej roboty te są kontynuowane. **Mieszkańcy wsi Krywiatycze na terenie tut. Gminy są znani z szeregu inicjatyw i realizacji czynów społecznych, jakie wykonali dla swojej wsi.**

**Naczelnik Gminy**
**mgr Mikołaj Ziniewicz**

## БРАЛА, ЦІ НЕ БРАЛА?

А ніжэй прыведзены адказ ГС у Нарве блытаны. І палемічны ў адносінах да матэрыялу нашага карэспандэнта, апублікаванага ў 15 нумары „Нівы“ п.з. „Беспарадак“. Там карэспандэнт казаў, што прадаўшчыца брала за нетыповыя бутэлькі з алеем па 3 зл., а адказ гаворыць, што не брала. Брала, ці не брала — вось пытанне, на якое знайсці адказ трэба. Думаем, што ў гэтай справе адгукнецца наш карэспандэнт, бо аж такая розніца ў сцвярджэннях карэспандэнта і ў адказе ўстановы нас непакоіць. І чаму нечытэльныя подпісы з ГС у Нарве?

Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Narwi wyjaśniła skargę korespondenta ze wsi Białki, w której autor twierdzi iż rzekomo nigdzie nie można otrzymać zwrotu kaucji pobieranej przez miejscowy sklep przy zakupie oliwy w nietypowych butelkach. Stwierdzono, że sklep nie pobierał kaucji przy sprzedaży oliwy w nietypowych butelkach. Nawet sam autor tej notatki Ob. Łukaniuk Mikołaj oświadczył w rozmowie z przedstawicielem Zarządu, że sklep nie pobierał kaucji przy sprzedaży oliwy w nietypowych butelkach. Stwierdził on, że w tej notatce chodziło mu o to, że Oddział Zakładu Handlu w Hajnówce niesłusznie obciążył na fakturze kaucją za 30 szt. nietypowych butelek po oliwie.

**Zarząd**
**dwa podpisy nieczytelne**

## ДЗЕ ШУКАЦЬ НАПІЛЬНІКАЎ

Усе веснавыя месяцы вялася на нашых старонках цікавая дыскусія, якую коратка можна акрэсліць: дзе шукаць напільнікаў? Такая дробная прылада аказалася героем карэспандэнцкіх публікацый на працягу двух ці трох месяцаў. Аказваецца, нельга недаацэньваць рэчаў і здарэнняў дробных. Людзі, чытаючы пра пошукі напільнікаў, пачалі пісаць у „Ніву“ аб пошуках іншых дробных і проста неабходных у гаспадарцы рэчаў, як, напрыклад, завесы для вокан і дзвярэй, і яшчэ драбнейшых, як, напр., сталярскіх алоўкаў. Вельмі нам падабаецца такая смелая „дробная“ дыскусія. Але вернемся да гарадоцкіх напільнікаў. Гарадоцкіх — бо першая інфармацыя датычылася Гарадка. Але ніжэй прыводзім адказ пра недахоп напільнікаў у Бельску, дзе „тры жалезныя крамы, а напільніка купіць няма дзе“. ГС у Бельску тлумачыцца, як можа, але што з таго? Крычаць людзі: не тлумачцеся, а рабіце нешта, каб былі напільнікі — і гэта ўся вялікая філасофія. Таму і пытаем, ці будзе з гэтым лепш і калі?

Poruszona sprawa braku pilników trójkątnych przez Ob. Michała Kiryluka zam. w Knorozach jest słuszna. Sieć naszych sklepów w terenie jak również i w siedzibie miasta Bielsk Podl. nie jest w pełni zaopatrzona w pilniki trójkątne, których brak występuje na przestrzeni całego roku.

Występujące braki nie są spowodowane brakiem zainteresowania pracowników naszej GS, odpowiedzialnych za zaopatrzenie sieci w artykuły do produkcji rolnej, lecz występującymi brakami tego artykułu w hurtowniach, które zaopatrują naszą sieć handlową.

Skarga Ob. Michała Kiryluka odnośnie sprzedaży pilników tylko dla znajomych, nie pokrywa się z rzeczywistością. Kierownik sklepu oświadczył, iż przypomina sobie ten wypadek sprzedaży dwóch pilników pewnemu obywatelowi, lecz były to ostatnie pilniki, jakimi dysponował sklep w tym dniu, dlatego też nie mógł spełnić życzenia Ob. Michała Kiryluka, za co przepraszamy.

**V-ce Prezes**
**A. Wakulewski**

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**



— *У адрозненне ад Сатурна Зямля абзавялася пяццю кольцамі...*

## ПЧАЛА ЦІ МУХА?

Іван Артамонавіч аўтарытэтна заяўляе, што сына за правае вуха ўкусіла муха. Ну, самая звычайная, што ў хату залятае. Жонка Параска сцвярджае, што ўкусіла не муха, а пчала. І не за правае вуха, а за левае.

Іван Артамонавіч ужо колькі гадзін даказвае, што менавіта муха. І менавіта за правае, зверху. У гэтым ён упэўнены, як у тым, што калі ідзе дождж, то абавязкова з неба. Па-першае, джала не засталося, а па-другое, насякомае, якое ўкусіла Воўку, не гудзела.

Жонка і слухаць не хоча. Яна мае цвёрдую падставу. Па-першае, двухкрылае насякомае, перш чым укусіць Воўку, загудзела. Па-другое, Воўка мог джала з перапуду і рукою выдзерці.

Іван Артамонавіч клянецца, што гэта была муха. Параска з плачам даказвае, што пчала. І яна ўджаліла Воўку за левае вуха.

Але, як бы там ні было, а з-за Воўкі і злога насякомага ў доме Стаканчыкавых загарэўся сыр-бор. Іван Артамонавіч не мог сцярпець знявагі жонкі і назваў яе рыпучым дрэвам. Ну, а раз так, пайшла ў атаку і Параска. І паколькі яна адносіцца да катэгорыі слабага полу, то яна надзела на галаву Івану рэшата.

Суседзі спрабавалі памірыць Стаканчыкавых:

— Ды ліха ўжо з тым насякомым. Абы хлопцу ўсё добра было. Воўка ваш — што памідор...

— Ніякага прымірэння, — заявіў Іван Артамонавіч, — я ўпэўнен, што муха!... Я чалавек прынцыповы...

— З дому сыду, а на сваім застануся. Пчала, — ламантавала жонка...

І тут у кватэру ўбягае Воўка:

— А мяне ніхто і не кусаў. Вуха я ручкай нацёр...

**Віктар Лоўгач**



...Хоць ён і не быў хлебаробам, аднак ад дзвюх бутэлек яго цягнула да зямлі.

# НІЎКА

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін мужчына звярнуўся ў паліцыю з заявай аб тым, што яго жонка прапала.

— Вазьміце ліст паперы і дакладна апішыце яе, — запрапанаваў паліцэйскі.

— Добра, толькі дайце слова, што вы ніколі ёй гэтага не пакажаце.

*

Ледзі выходзіць пасля дабрачыннага балю на вуліцу і прыкмячае жабрака з працягнутым капелюшом.

— Вось вам пенс, — гаворыць яна, — але больш я вам нічога не дам. Дастаткова таго, што дзеля вас я танцавала ўсю ноч!

*

Палкоўнік дакладвае свайму генералу аб поспехах у арміі. Свой рапарт ён заканчвае словамі:

— Але што палепшылася больш за ўсё, дык гэта вайсковая дысцыпліна.

Пры гэтых яго словах дзверы раптоўна адчыніліся, і на парозе вырас малады салдат:

— Дзед, я вазьму тваю машыну!...

— Вось бачыце, мой генерал, які дысцыплінаваны ў мяне салдат. Год назад ён бы нават і не папытаўся...

*

У часе наведання мужа ў турме жонка ціхенька пытае:

— Ці ўсё ў парадку з тым маленькім напільнічкам, што я паслала табе ў хлебе?

— Цяжка сказаць: мяне апераруюць заўтра.

— ... *і ніякіх удараў ніжэй пояса!*

Байка ў прозе

### СТРЭЛКІ

Гадзіннікавыя Стрэлкі рухаліся па цыферблату. Вялікая, звычайна, выпярэджвала маленькую.

— І чаго ты так плёнтаешся, — лаяла яна меншую сястру.

— Але ж мы выступаем на розных дыстанцыях, — апраўдвалася тая. — Табе на хвілінай патрэбна хуткасць, а мне на гадзіннай — вытрываласць.

— Якія дурніцы! — абурылася хвілінная Стрэлка. — Лепш бы ты ўжо зусім стаяла. Я сама паказала б час лепш і хутчэй.

Раптам у сярэдзіне гадзінніка нешта шчоўкнула. Маленькая Стрэлка спынілася. Мабыць, абразілася на вялікую, а можа, проста гадзіннік зламаўся.

Вялікая Стрэлка пабегла цяпер штодуху. Ды як не спяшалася, а сама наогул не магла нічога паказаць.

**Б. Воўк**



### СВЯТАЯ НАІЎНАСЦЬ

Настаўнік фізкультуры пытаецца ў дзяцей:

— Хто з вас умее плаваць?

Я ўмею! І я ўмею! — закрычалі дзеці амаль у адзін голас. Толькі Міколка маўчыць.

— А ты, Міколка, умееш плаваць? — пытаецца настаўнік.

— А я ні разу не спрабаваў.

### ВЫНІК

—Мая Гапка хоча пахудзець і цяпер увесь час ездзіць вярхом.

— І які вынік?

— Конь страціў у вазе дзесяць кілаграмаў.



### ЛІШНІ РАСХОД

Вядомы задрыпанец дацэнт Скок — па міжгародным тэлефоне да жонкі:

— Таня! Ты толькі карацей сварыся на мяне. Злотых на пяць. А то мінулы раз я дваццатку пераплаціў.

### ТЛУМАЧЭННІ

Праязджаючы каля рэстарана „Вятрак“, Міколка спытаў у бацькі:

— Што гэта за машына?

— Гэта не машына, а вятрак, — адказаў бацька.

— А для чаго ён?

Бацька падумаў крыху, потым, цяжка ўздыхаючы, сказаў:

— Каб кішэні праветрываць.

### МАТЫЛЬКІ

Жывыя краскі — матылькі —  
Лятаюць, кружацца, віюцца,  
Злавіць у рукі не даюцца,  
Ляцяць у розныя бакі.  
Ніколі б не здзівіўся, мусіць,  
Я, глезячы на іх палёт,  
Калі б яны збіралі мёд.  
Інačай — што рабіць на лузе?  
Не думайце, што гэта дробязь,  
Якую можна абыйсці:  
І што за справу яны робяць,  
Так неабходную ў жыцці?  
Паназірайце, калі ласка,  
За лёгкакрылым матыльком,  
Калі ён на галоўку краскі  
Прысядзе ціхенька, крадком,  
Адрозніць проста немагчыма  
Яго ад краскі лугавой,  
Ён нават не міргне вачыма  
І не паверне галавой.  
Жывая краска — не інačай,  
А ці ж яна краса лугоў?  
А хто, скажыце, з нас не бачыць  
Прыстасаванцаў-матылькоў?

**Яўген Крупенька**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе М. Усцілка з Суxенiч, Р. Апэноўскай з Кажэнюўкі, І. Аляксеюк з Плёсак, В. Лукшы, Д. Літвін, Л. Лукшы, А. Парфенюк, Г. Паплаўскай з Залук, Э. Альшэўскай з Радуніна, І. Троц, Ё. Добаш, Г. Сеўка, М. Крупы, З. Петрушкевіч з Рудут, І. Несцярук з Дубіч Царкоўных, К. Шульц з Сяміціч, І. Васілюк з Чэхаў Арлянскіх змяшчаем песню

## Bezpańska miłość

*słowa: P. Howil, A. Kłodzki*  
*muzyka: Janusz Kępski*  
*śpiewa Daniel*

*Mamy na wszystko sposób*  
*Umiemy kopie kruszyć,*  
*By na rozdrożach losu*  
*Gdzieś się nie zawieruszyć.*  
*Jednak wśród nas na co dzień*  
*We wszystkich świata stronach*  
*Przemyka się samotna Ona:*

*Bezpańska miłość zawieruszona*  
*Idzie ulicą nie wiedzieć skąd,*  
*Czeka, aż weźmie ją ktoś w ramiona*  
*I jej wynajmie przytulny kąt.*

*Zgubił ktoś swoją miłość*  
*I urok lat minionych.*  
*Zwykle brak wtedy czegoś,*  
*Co dawno już stracone,*  
*Wtedy codzienna prasa*  
*Przynosi ogłoszenia:*  
*BEZPAŃSKA MIŁOŚĆ — DO*  
*PRZYTULENIA!*

*Bezpańska miłość zawieruszona*  
*Idzie ulicą nie wiedzieć skąd,*  
*Czeka, aż weźmie ją ktoś w ramiona*  
*I jej wynajmie przytulny kąt.*




*У наш горад прыехала баскетбольная каманда!*




### СЯБРОЎСКАЯ ВАДА

— Дзе быў?  
— У сябра.  
— Што піў?  
— Ваду, але лепшага і мёду ў іншым месцы не знайду.

### СЯМЕЙНАЯ РАЗМОВА

— Пенчаву дактары прыпісалі строгую дыету.

— Тады можаш запрасіць яго на вячэру.




### У НАГУ З ЧАСАМ

Улічваючы рост колькасці разводаў у ЗША (за апошнія дзесяць гадоў — на 33 працэнты), многія амерыканскія фірмы, якія займаюцца выпускам паштовак, пачалі рабіць на іх і такія надпісы: „Прыміце віншаванне з прычыны Вашага разводу!“, „Вы адкруціліся ад шлюбнага саюза — жадаем удачы!“

### ЦЁЗКІ

У Маскве жывуць дванаццаць Аляксандраў Сяргеевічаў Пушкіных, шэсць Наташ Растовых, адна Анна Карэніна, студэнт Аляксандр Чацкі, слесар Іван Грозны, шафёр Дзмітрый Пажарскі, два інжынеры Кузьмы Мініны. У сталіцы таксама жыве 27 Барысаў Гадуновых (старэйшы — 75-гадовы пенсіянер, малодшы — шасцігадовы школьнік).

Аднак больш за ўсё ў Маскве Іванових (100 000), крыху менш Смірновых (80 000).

### УКРАЛІ... МОСТ

У Аргенціне зрабілі небывалы крадзеж: укралі чыгуначны мост. Як паведаміла паліцыя, на працягу адной ночы шайка злодзеяў дэманціравала мост цераз раку Сан-Антоніо. Лічаць, што сярод злачынцаў, безумоўна, былі кваліфікаваныя тэхнікі. І працавалі яны не дарэмна: праз некаторы час паліцыі стала вядома, што грабежнікі выгадна рэалізавалі дэталі моста як металалом і схаваліся.




**Беражыце зубы! Не прыставайце да людзей, якія мацнейшыя за вас.**